• У нумары •
• Дуэль на дырыжорскіх палачках •
• Карабель патануў… у парку •
• А мільярды — пад нагамі •
• Сусветна-вядомы мастак нарадзіўся ў Смаргоні •
• Жанчыну ўпрыгожваюць і зоркі на пагонах •
• "Эфірная змяя з добрым сэрцам" •




# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 35 (348) 12 — 18 верасня 1998 г. КОШТ 3500 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ •

*Віншуем усіх чытачоў з Еўрапейскімі Днямі Спадчыны!*

## ВЫРАСЦІМ ЛЕС МІЦКЕВІЧА?!

***Дом, дзе геній правёў сваё маленства, тыя мясціны, якімі захапляўся і якія любіў, з'яўляюцца магічнымі і святымі для людзей.***

Адносна нядаўна прафесар, дырэктар Варшаўскага музея Міцкевіча Януш Пенёнжак здабыў пераканаўчыя доказы, што Завоссе, дзе нарадзіўся і правёў сваё маленства Міцкевіч, ёсць менавіта тое Завоссе, якое знаходзіцца на шляху з Баранавіч да Навагрудка, непадалёк ад вёскі Сталовічы.

У гэтым Завоссі і пасля эміграцыі Міцкевіча жылі яго сваякі. Пасля паражэння лістападаўскага паўстання ў 1830 годзе гэты фальварак быў канфіскаваны царскімі ўладамі.

Прайшлі гады, і Завоссе занепала. Але ж на стагоддзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча ўдзячныя прыхільнікі таленту паэта паставілі на месцы сядзібы абеліск памяці. Аднак войны, што пранесліся па гэтай зямлі, знішчылі і гэтую памятку. Ды яшчэ ў 30-я гады былі высечаныя ўсе акружныя лясы.

"Калі мы шэсць гадоў таму ўпершыню пабывалі на гэтых мясцінах, — успамінае Уладзімір Гілеп, старшыня Беларускага фонду культуры, — тут былі голыя палі".

Сапраўды, ландшафт сучаснага Завосся непадобны да беларускага краявіду, хутчэй гэта стэпавая Паўднёвая Украіна.

Захаваўся малюнак сядзібы Міцкевічаў, які выканаў сябар паэта Эдвард Паўловіч, дзе відаць, што каля дома стаяць вялікія дрэвы. Паводле гэтага малюнка і аднаўлялася сядзіба, але, на жаль, лес не пабудуеш…

І вось 8 верасня ў прысутнасці кіраўнікоў Брэсцкай вобласці, кіраўнікоў Баранавіцкага раёна, прадстаўнікоў Міністэрства культуры Беларусі, супрацоўнікаў Аб'яднання Дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь і польскіх гасцей з Варшаўскага літаратурнага музея Міцкевіча, які спрычыніўся да будовы, Музей-сядзіба Міцкевіча была ўрачыста адкрыта. Гэтая падзея прысвечана 200-годдзю з дня нараджэння Міцкевіча. Цяпер мы маем святыню, аднак неабходна зрабіць яшчэ адзін крок для ўшанавання памяці генія — можа быць, варта выдзеліць кавалак зямлі каля адбудаванай сядзібы і пасадзіць дрэвы. І, пэўна, на 250-годдзе Міцкевіча тут будзе шумець яго лес.

Серж МІНСКЕВІЧ



Фота Генадзя ЖЫНКОВА








Калонка "пра набалелае"

# УСХОД — СПРАВА ТОНКАЯ. ПАКЛЁПЫ — ТАКСАМА?

***Клопатаў хапае, бо жыць і выжываць усё цяжэй. Нават набыць цукар — ужо праблема. А гэтая — была і застаецца.***

**Неяк, спяшаючыся на працу, сустрэў сябра, з якім даўно не бачыўся. Адразу звярнуў увагу: твар засмучаны, па ўсім бачна — нервуецца чалавек, маркоціцца, хоць і выгляду імкнецца не падаваць. Няйначай, падумаў я ў той момант, здарылася нешта дома ці на рабоце.**

**— На рабоце, — сумна пацвердзіў ён.**

**— З абавязкамі сваімі не спраўляешся?**

**— Каб жа! Нейкі "добразычлівец", каб яму спрахла, "сігнал" на мяне даслаў. З галавы да ног гразздю абліў.**

**— Не звяртай увагі. Подпісу ж, наколькі я разумею, няма. Ананімка, значыцца. Плюй на яе.**

**— Табе лёгка казаць. А мне на працы праходу няма. Ведаеш, як гэта звычайна бывае? Маўляў, няма дыму без агню.**

**Хуценька развітаўшыся са мною, сябар паклыпаў далей, паглыблены ў свае не надта прыемныя думкі. А я падумаў, гледзячы яму ўслед: выбілі сумленнага чалавека з каляіны, выбілі надоўга. Каму гэта было патрэбна, каму на руку? Якому мярзотніку? Калі крытыка справядлівая, дык скажы яе ў вочы. А тут паперка без подпісу. Хто аўтар? Чаму не паставіў свайго прозвішча? Баяўся чаго-небудзь? Ці — сябе баяўся? "Фактаў" сваіх, што не спраўдзяцца, баяўся?**

**Пытанняў шмат. Пытанняў вельмі няпростых. Хаця б таму, што па логіцы ўсе мы людзі, усе аднаго роду чалавечага. Толькі адны ўпотай, наўмысна б'юць пад дых, а іншыя — ні ў чым не вінаватыя — вымушаны абараняцца, даказваць, вобразна кажучы, што яны не вярблюды. У большасці выпадкаў такія "сігналы" не адпавядаюць ісціне. Але ж "аб'ектам увагі" паклёпнікаў ад гэтага не лягчэй. Нават калі і ўдавалася даведацца, хто "выкрывае", дык схопленыя за руку аўтары падмётных лістоў найчасцей абмяжоўваліся лёгкім перапудам — грамадзянскім ганьбаваннем альбо, у горшым выпадку, перадачай справы ў народны суд.**

**Павінен адразу зазначыць, што паклёпнікі — народ усяядны. Яны дасылаюць "сігналы" і на суседзяў па лесвічнай пляцоўцы, і на калегаў па працы, і на прадаўцоў у крамах, і на вадзіцеляў гарадскога транспарту, і на ўрачоў, і на педагогаў — настаўнікаў сваіх дзяцей... Гэтыя "барацьбіты за справядлівасць", узводзячы паклёпы на сумленных людзей, самі застаюцца ўбаку, зларадна назіраючы за вынікамі дзеяння сваіх "папяровых тарпед". Праверкі не адпаведных ісціне ананімных "сігналаў", зразумела ж, наносяць маральныя траўмы тым, на каго паклёпнічаюць. Справа даходзіць нават да інфарктаў і інсультаў. А колькі часу ідзе на праверкі і разборкі! Рабочага, між іншым, часу супрацоўнікаў многіх службаў і арганізацый, ды і тых, хто трапіў "пад апеку".**

**Міжволі падумалася: а ці не прасцей было б раз і назаўсёды перакрыць дыханне падобным "сігналам", паставіць іх па-за ўсімі законамі? Не разглядаць іх, а папросту адразу выкідваць у сметніцу? Такую думку я неяк выказаў яшчэ аднаму свайму сябру — юрысту па адукацыі. У адказ ён няпэўна паціснуў плячыма, маўляў, па логіцы кожны ліст альбо тэлефанаванне павінны быць разгледжаны. А я яму прыводжу прыклад: галоўны рэдактар адной газеты на скаргу па тэлефоне жонкі ягонага супрацоўніка адказаў ёй, што ў чыста сямейныя бытавыя справы ўмешвацца не жадае, разбірайцеся самі. Вось такі рэдкі, на жаль, выпадак. Пакуль жа паклёпнікі на ўсю моц як карысталіся, так і карыстаюцца ўважлівым, а часам, чаго граха таіць, і зацікаўленым стаўленнем асобных грамадзянаў да лістоў, дасланых у пэўныя інстанцыі і калектывы, тэлефанаванняў туды ж, ды проста чутак, якія, нібыта блохі, поўзаюць у нашым асяроддзі.**

**Што б там ні казалі пра маральнасць альбо амаральнасць нашага грамадства, але ж вось жывуць сярод нас людзі, якія толькі і дбаюць пра тое, каб зрабіць некаму прыкрасць. І жаданне такое ў некаторых паклёпнікаў настолькі жывучае і непераадольнае, што ім і свет белы не мілы, калі не зробяць чарговага паскудства. Гэта ж, на маю асабістую думку, самыя сапраўдныя злачынцы, толькі, так бы мовіць, ціхія злачынцы, іх не надта што да судовай адказнасці і прыцягнеш. А церпяць ад іх сапраўды сумленныя людзі...**

**Валерый ШЫХАНЦОЎ**

# У ДЫРЫЖОРСКАЙ ПАЛАЧКІ ДВА КАНЦЫ. ЯКІ З ІХ ГАЛОЎНЫ? ВІДАЦЬ, ТОЙ, ШТО ТРЫМАЕ ГАЛОЎНЫ ДЫРЫЖОР



***7 верасня сталі вядомыя вынікі конкурсу на пасаду галоўнага дырыжора Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі. Цяпер аркестр будзе ўзначальваць Генадзь Праватораў.***

За гэтымі сціслымі радкамі інфармацыі — шквал страсцей, эмоцый, спрэчак, што ахінулі апошнім часам аркестрантаў, філармонію і самыя шырокія колы музычнай грамадскасці. Чаго каштавала адна толькі прэс-канферэнцыя, арганізаваная членамі мастацкага савета аркестра напярэдадні конкурсу!

У рэдакцыю прыйшоў факс, пазначаны рэмаркай SOS!!! Пачынаўся ён словамі, якія ўзрушвалі да глыбіні душы: "Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь планамерна рыхтуецца знішчэнне найталенавітага дырыжора і музыканта Міхаіла Каца, а разам з ім і Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь".

Прэс-канферэнцыя пакінула самыя супрацьлеглыя ўражанні. Палова аркестра пра яе не ведала, некаторыя даведаліся выпадкова, затое чвэрць партэра Канцэртнай залы Белдзяржфілармоніі была запоўнена... публікай. Як высветлілася, з прыходам у аркестр Мішы Каца яго прыхільнікі-слухачы арганізавалі нешта накшталт Клуба аматараў сімфанічнай музыкі. Ці ж гэта не сведчанне ўкладу гэтага дырыжора ў нацыянальную беларускую культуру?

Ды толькі... Чым дольш цягнулася прэс-канферэнцыя, тым больш узнікала адчуванне, што стужка часу вяртае мяне ў сумна вядомыя трыццатыя. Нібыта спрацавала нейкая машына часу — і я апынулася на тых "абмеркаваннях", дзе прадстаўнікі пралетарыяту і сялянства давалі параду кампазітарам, як ім тварыць далей. Вось толькі "плюс" змяніўся на "мінус" і наадварот: калі раней, вядома ж, ганьбілі, абвінавачвалі ў незразумеласці, дык зараз — абаранялі. Шчыра, ад сэрца!

Ужо адно тое, што творцу прыйшлі абараняць яго прыхільнікі, заслугоўвае ўвагі і пашаны. Сказаў бы хто, не паверыла б: усё ж сімфанічная класіка — гэта не эстраднае шоу з натоўпам звар'яцелых фанатаў. Але ж многія журналісты апынуліся ў разгубленасці: замест эмацыйных усплёскаў ім, зразумела, хацелася паслухаць непрадузятыя меркаванні спецыялістаў.

У ролі спецыялістаў былі хіба што аркестранты. Але яны падзяліліся на два лагеры: "за" і "супраць". Падзяліліся не зусім па прафесійным прынцыпе: тыя, хто "супраць", найперш успаміналі ўласныя крыўды, а тыя, хто "за", больш даводзілі пра гуманітарную дапамогу, што аказваў Міша Кац усяму аркестру і музыкантам асабіста. Дарэчы, памеры гэтай дапамогі журналісты маглі ацаніць і самі, атрымаўшы раздрукаваную даведку, у якой красамоўна сведчыла сама за сябе лічба — 72890 долараў.

Аргумент? Яшчэ які. Ды толькі, ці ж гэта справа галоўнага дырыжора — збіраць за мяжой грошы нашым музыкам на струны, на медыкаменты, на, прабачце, адзенне? Можа, гэтым павінны займацца іншыя структуры? І ці ж гэта не сімптом нашай бездапаможнасці, калі побытавыя праблемы вырашае — маэстра? Зірніце вакол: музыкантаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі апякуе асабіста Міхаіл Фінберг, побытавыя праблемы членаў Беларускага саюза кампазітараў

***Мода "прыручаць" прыроду ўзнікла яшчэ ў тыя часы, калі нашы продкі ўпершыню ўзялі ў рукі камяні і пабеглі за мамантам. Тыдні праз тры такога "марафона" за ежай яны зразумелі, што намнога лягчэй мець уласны статак, які пасвіўся б дзе-небудзь непадалёку. Тады ж яны пачалі дзяліць землі і, ледзьве навучыўшыся абыходзіцца з раслінамі, заняліся ўпарадкаваннем сваіх уладанняў. З'яўляліся тыя, хто простае збіральніцтва і раслінаводства ператваралі ў сапраўднае мастацтва, ствараючы вакол сябе ўласны куток прыроды, які адпавядаў бы густам гаспадара. Думаю, менавіта тады і з'явіліся зародкі сучаснай паркавай культуры.***



# ПАРК "ЮРСКАГА" ПЕРЫЯДУ

Сёння ўжо практычна немагчыма ўявіць сабе горад без парку. Гэты невялічкі кавалачак прыроды пасярод гарадскога тлуму заўсёды вабіць людзей, перш за ўсё, магчымасцю адпачыць ад будзённых клопатаў, ён вяртае ў той забыты стан спакою і раўнавагі, выступаючы ў якасці лекара-псіхатэрапеўта. Нездарма ж было модна называць гэтыя "выспачкі" прыроды паркамі культуры і адпачынку. Тут і сапраўды можна адпачыць. А вось культура...

### "ВЫП'ЕМ ПА ЧАРАЧЦЫ, З'ЯДЗІМ ПА ШКВАРАЧЦЫ..."

"Сяброўка, чаму ты такая сур'ёзная? Зрабі твар прасцей, і людзі да цябе пацягнуцца. А дзеля гэтага выпі з намі сто грамаў". Так гаварылі мне ў парку два п'яныя дзецюкі, "цягнучыся" да мяне са шклянкамі, поўнымі гарэлкі. І хаця настрой у мяне ў гэты дзень быў сапраўды кепскі, я не палічыла вартым далучыцца да гэтай кампаніі. Найперш таму, што я хачу, каб да мяне цягнуліся сапраўдныя людзі, а не выпівохі з "простымі" тварамі.

Я не адкрыю Амерыку, калі скажу, што ў нашай краіне п'янства з'яўляецца сапраўднай чумой. Ім "заражаюцца" ў кампаніях сяброў, і вылечыцца ад гэтага захаплення практычна немагчыма. Лічыцца, што нашыя ўлады клапоцяцца пра здароўе нацыі і таму забараняюць п'янства ў грамадскіх месцах. І гэтае п'янства спакойна перамясцілася з грамадскіх месцаў у паркі. Селі пад кусток, глынулі, з'елі агурок, глынулі. Маўляў, мы на прыродзе — што з нас узяць. Ды не, каб трапіць сёння на прыроду, варта сесці на электрычку, праехаць колькі прыпынкаў, а потым яшчэ доўга ісці пешшу, пакуль не застануцца далёка ззаду шматлікія лецішчы. А якая ж прырода ў цэнтры горада? Канешне, многія сёння часцей наведваюць крамы, чым паркі. Аднак нельга адмаўляць, што парк — такое ж грамадскае месца, як і іншыя. Тым больш, што людзі шукаюць тут станоўчых эмоцый, а не п'яных боек.

Раней на выпівох, па большай частцы, наракалі за пустыя бутэлькі, што пакідалі яны пасля свайго "адпачынку". Цяпер гэтай праблемы не існуе — у кожным парку можна сустрэць "вольных стралкоў" (так называюць бабулек, што збіраюць бутэлькі), якія сумленна выконваюць сваю працу. Добра? Гледзячы, з якога боку на гэта зірнуць.

Мяне ўразіла сваёй пра-



ляжаць на плячах Ігара Лучанка. Калі ж прафесіяй займацца?

Апошняе пытанне ў адносінах да Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра мае дадатковы сэнс: дырыжор, які бывае на Беларусі толькі наездамі, пазбаўлены штодзённай працы з аркестрам. Але галоўнае — пры такіх умовах яму цяжка весці вытрыманую рэпертуарную палітыку. Хаця, шчыра кажучы, палітыка ўсё ж існавала. Пад кіраўніцтвам Мішы Каца аркестр выконваў, у першую чаргу, добра вядомыя класічныя творы — тыя, якіх так прагнуць слухачы: і ў нас, і за мяжой. Але я не памятаю, каб ён стаяў за пультам, рэпеціруючы беларускія творы. Канешне, тое, што на Мішу Каца пачалі хадзіць, як калісьці на Святаслава Рыхтэра, безумоўная яго заслуга. Ды толькі, акрамя колькасці занятых у зале месцаў, існуюць яшчэ іншыя паказальнікі. Відаць, менавіта яны прывялі да расколу аркестра, прымусіўшы частку аркестрантаў звярнуцца ў інстанцыі з просьбай прызначыць іншага дырыжора.

Відаць, найлепшым выйсцем была б жартоўная прапанова, выказаная ўсё на той жа прэс-канферэнцыі: маўляў, хай будуць два сімфанічныя аркестры — кожны са сваім дырыжорам, але пры ўмове, што канцэрты абодвух будзе весці адзін Уладзімір Шэліхін.

Адразу ўспомніліся шматлікія расколы ў тэатрах: у той жа Таганцы, у Вялікім тэатры ў Маскве. Прыйшлі на памяць фільмы "Рэпетыцыя аркестра" Федэрыка Феліні і нашыя "Вясёлыя хлопцы". Памятаеце фрагменты, калі творчыя спрэчкі аркестрантаў прыводзілі да сапраўднай бойкі? Ды што там фільмы з іх сімволікай, дзе аркестр становіцца люстэркам грамадства! Колькі гадоў таму "тоўсты" навуковы часопіс "Музычная акадэмія" на поўным сур'ёзе абмяркоўваў пытанне, ці не трэба ў адпаведнасці з дэмакратычнымі тэндэнцыямі перабудовы выбіраць дырыжора сярод саміх аркестрантаў. Успомніліся і колішнія "разборкі" двух знаных беларускіх кампазітараў, якія судзіліся адзін супраць другога.

Нехта скажа, што падобныя ўсплёскі садзейнічаюць прыцягненню ўвагі грамадскасці да праблем культуры. Можа, яно і так. Ды ўсё ж гэта ўвага хутчэй не столькі да мастацтва, колькі да ваколмастацкіх пытанняў. Вось калі б з такім жа імпэтам абмяркоўваліся праблемы інтэрпрэтацыі, параўноўваліся розныя трактоўкі аднаго і таго ж твора! І зусім з галіны фантастыкі — твора беларускага! На жаль, усе папярэднія прыклады сведчаць, што ў падобных сітуацыях ніхто не застаецца ў выйгрышы. Ды і які можа быць выйгрыш, калі творчыя сілы растрачваюцца на супрацьстаянне двух лагераў.

Адное, чаму можна ва ўсёй гэтай гісторыі павучыцца, дык гэта ўменню Мішы Каца пастаяць за сябе. Замежныя музыканты, здавалася б, прызвычаены да традыцыйнай на Захадзе кантрактнай сістэмы, калі па заканчэнні кантракта ён можа быць больш не працягнуты. Але нават зараз, калі конкурсная камісія метадам тайнага галасавання вынесла свой вердыкт, які не падлягае перагляду, Міша Кац працягвае барацьбу: запрашае журналістаў яшчэ на адну прэс-канферэнцыю.

Цяжка сказаць, чым усё скончыцца. Бо такія гісторыі адгукаюцца і праз шмат гадоў. На Беларусі ўвогуле ўжо склалася традыцыя "з'ядаць" дырыжораў — ды яшчэ якіх! Прычым "з'ядаюць" іх самі аркестранты. Ніводны з тых выпадкаў не стаў набыткам шырокай прэсы, але знаўцы памятаюць, як "з'елі" калісьці на радыё Валерыя Лявонава — прафесіянала экстра-класа, як "з'елі" ў Камерным аркестры, а потым у оперы Віктара Собалева. Як некалі ад нас быў вымушаны з'ехаць Аляксандр Анісімаў — і як вярнуўся праз колькі гадоў пераможцам.

А яшчэ з памяці не ідуць постаці Юрыя Цырука, Юрыя Яфімава, Барыса Райскага, Віктара Дуброўскага — з іх смерцю беларуская культура шмат чаго страціла. І страціла назаўжды. Бо толькі смерць — з'ява непапраўная. Усё астатняе — рассудзіць час.

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

---

статой і дзікасцю сцэна, сведкай якой мне давялося стаць тыдні з два таму. Бабулька з унукам гуляла па парку. Стомленая, яна прысела на лавачку, а чатырохгадовы хлапчук тут жа знайшоў у траве пустую бутэльку. З гордасцю ён паклаў яе бабулі ў сумку, і тут жа з суседняй лавачкі яго паклікала маладая пара. Яны працягнулі хлапчуку дзве бутэлькі з-пад піва, а той, сказаўшы "дзякуй", паспяшаўся пахваліцца бабулі сваёй здабычай. Чаму ж навучыцца гэты хлопчык, з малалецтва збіраючы бутэлькі? Беражлівасці? Думаю, што не. А навучыцца ён перш за ўсё таму, што "дабро" можна рабіць і такім чынам, пакідаючы іншым бутэлькі з-пад пітва. І дай Бог, каб хлопчык гэты піў толькі безалкагольныя напоі.

### "КАРУСЕЛЬ, КАРУСЕЛЬ — ГЭТА РАДАСЦЬ ДЛЯ ЎСІХ"?

Кожны раз у дзяцінстве, калі мы з бацькамі прыязджалі ў Мінск, я прасіла іх звадзіць мяне ў парк Горкага. Мяне, маленькую дзяўчынку, вабілі дзіцячыя атракцыёны. Асабліва займала дух "чортава кола". Аглядаючы з ягонай вышыні горад, хацелася крычаць ад захаплення і ўсведамлення сваёй магчымасці ўзняцца так высока над зямлёй. Сёння я штодня магу наведваць парк Горкага. Аднак тое дзіцячае захапленне знікла беззваротна. Не працуюць былыя атракцыёны, нават "чортава кола", да якога раней стаялі велізарныя чэргі, больш не круціцца. Няма попыту?

Канешне, сёння і бацькі, і дзеці аддаюць перавагу замежным атракцыёнам. Аднак гэта не падстава, каб вінаваціць іх у непатрыятызме. Бо дзецям усё роўна, у якой краіне зрабілі "казачны" надзіманы палац, дзе можна ўволю паскакаць, ці "дзіва"-звера, што спрэс складаецца з коўзанак. Побач з гэтымі немудрагелістымі, але эфектнымі забавамі нашы атракцыёны выглядаюць вялізнымі ржавымі грудамі жалеззя. І здаецца, што яны ні да чаго не прыдатныя. А вось раней... Далей можна доўга ўспамінаць пра тое, якім цудам тэхнікі былі калісьці ўсе тыя "лодачкі" і якімі несапсаванымі былі тады дзеці. Прабачце, але дзеці не сапсаваліся і зараз. Псуюцца самі каруселі. Каторы з бацькоў і паказаў бы дзецям, якія забавы былі ў часы яго маладосці, ды часам становіцца страшна: "а раптам што здарыцца?" Так і застаюцца стаяць старыя атракцыёны, нібыта недагледжаныя музейныя экспанаты з шыльдай "рукамі не чапаць!". Сярод іх трапляюцца нават каруселі з дзіўнай назвай "паратрупер", аднак выпрабаваць іх знаходзіцца не так ужо шмат жадаючых.

"Мама, я хачу на "чортава кола", — просіць маленькая дзяўчынка. "Не, дачушка, яно не працуе. Пойдзем, я лепш куплю табе цукровай ваты". І так шкада мне стала дзяўчынку, якая будзе есці падманны "надзіманы" цукар і не адчуе асалоды ад "палёту" над зямлёй.

### "ДАПЛЫВУ ДА БУЙКА?"

Гонар дзіцячага парку імя Максіма Горкага — невялічкі параходзік. Найперш, таму, што ён, у адрозненне ад многіх іншых атракцыёнаў, усё яшчэ працуе. Да таго ж, пяцьдзесят працэнтаў прыбытку парку прыносіць менавіта ён. Бо людзям хочацца адчуць сябе на параходзе, які няспешна плыве па рацэ. Аднак, па-сапраўднаму ганарыцца параходзікам можа хіба што яго каманда: капітан і матрос. Бо толькі дзякуючы ім ён яшчэ трымаецца на вадзе. Хаця...

Мінулай зімой параходзік не вытрымаў і "з гора" пайшоў на дно. Гарадскія службы тады арганізавалі яго пад'ём, а сродкі масавай інфармацыі наперабой расказвалі пра затоплены параходзік і пра героя-капітана, які загінуў, ратуючы яго. Сам герой даведаўся пра сваю "смерць" праз некалькі дзён, калі прыйшоў атрымліваць зарплату. І сёння ён — нязменны капітан сваёй пасудзіны.

"А вы не спрабавалі браць грошы за ўваход?" — гэты стары анекдот узгадаўся мне, калі мы размаўлялі пра лёс параходзіка. Ходзіць ён дагэтуль толькі таму, што сам капітан за ўласныя грошы здабывае патрэбныя дэталі і так-сяк прыстасоўвае іх да "канкрэтных умоў існавання". Паміж сабою члены каманды называюць параходзік "Тытанікам". А самым дзейсным з'яўляецца жарт пра тое, што на палубе праступіла вада. Відаць, таму, што жарт гэты ў любую хвіліну можа стаць рэальнасцю.

### "ЯКАЯ НІ БЛОШКА — УСЁ Ж МЯСА КРОШКА"

Супрацоўнікі парку расказваюць пра аднаго мужчыну, які раз-пораз з'яўляецца на беразе Свіслачы. Ён звычайна прыходзіць з вялікай сумкай, дастае адтуль батон і пачынае карміць качак. Птушкі даверліва падплываюць бліжэй, мужчына выцягвае з сумкі сетку, накідвае яе на бедную качку і пачынае біць палкай, аж пакуль тая знепрытомнее. Дастаўшы птушку з вады, ён спраўна скручвае ёй шыю і кладзе ў сумку. Налавіўшы сабе "мяса", ён спакойна збірае рэчы і ідзе дадому, каб праз некаторы час з'явіцца тут ізноў. Міліцыя да гэтага часу не можа злавіць яго. А між іншым, "палюе" ён не ноччу, а пасярод белага дня, на вачах у іншых наведнікаў парку.

Хтосьці пашкадуе бедных качак. Мне ж шкада нас з вамі. Калі так пойдзе далей, вельмі хутка "практычныя" людзі вынішчаць усе елкі напярэдадні Новага года, астатнія дрэвы пусцяць на дровы, кветкі вырвуць на букеты. І ніхто не падумае, што мы ў першую чаргу абкрадваем самі сябе.

У Нясвіжы зараз разгарнулася рэстаўрацыя знакамітага Радзівілаўскага парку "Альба", аднаўляецца Лошыцкі парк у Мінску, ідзе праца над іншымі паркамі — помнікамі культуры. Чаму ж мы не беражэм тое, што маем? Няўжо, каб мець прыстойны парк, трэба яго спачатку разбурыць "до основанья"? А затым?..

**Таццяна КОМАНАВА**

---

СІТУАЦЫЯ

# СМЕЦЦЕВАЯ НАВАЛА, альбо МІЛЬЯРДЫ Ў НАС ПАД НАГАМІ

***Смецце за парог — а там хоць патоп. Кіруючыся падобнымі тэзісамі, мы прыйшлі да таго, што навакольнае асяроддзе на вачах ператвараецца ў агромністы палігон смеццевых "новабудоўляў". Мабыць, цалкам гэта ўсвядоміць мы зможам толькі тады, калі сапраўды надарыцца вялікі патоп, які прынясе ўвесь наш "скарб" да нашага ж парога. А пакуль...***

### ... ДА САМЫХ ДА ЎСКРАІН

Паводле інфармацыі, якую даў нашаму карэспандэнту вядучы спецыяліст аддзела па кантролю за адыходамі вытворчасці і спажывання Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Тадэвуш Пракаповіч, штогод у краіне набіраецца 20 мільёнаў адыходаў. Праўда, амаль 18 мільёнаў складзіруецца ў Салігорскім раёне, на плошчы 1 362 гектары — вынік "пладавітасці" вытворчага гіганта "Беларуськалій". Натуральна, там найбольш крытычная сітуацыя. Астатняе "каліва", палова з якога — менавіта адыходы жыццядзейнасці чалавека, на сённяшні дзень захапіла яшчэ тысячу гектараў родных абшараў. І з кожным годам смеццевая навала пашыраецца прыкладна на 50 гектараў. Не апошнюю ролю тут адыгрываюць наваяўленыя аднаразовыя кубачкі, бутэлькі, іншы ўпаковачны матэрыял. Паводле прагнозаў спецыялістаў, да 2005 года спажывецкія адыходы складуць два мільёны тон. Прычым, тут улічваюцца ў асноўным буйныя гарады. Сельская мясцовасць з прычыны адсутнасці там камунальных службаў практычна выпадае з поля зроку кантралюючых органаў. А несанкцыянаваныя звалкі, якія растуць, як грыбы пасля дажджу, увогуле немагчыма ўлічыць.

### СТАЛІЧНЫЯ "НЕБАСХІЛЫ"

Калі Салігорск "лідзіруе" па вытворчых адыходах, то па спажывецкіх, безумоўна, — Мінск. Сталічныя палігоны —"Трасцянец", "Прудзішча" і "Паўночны", што раскінуліся на 68 гектараў, распаўсюджваюць свой "водар" па наваколлі ўжо не адзін дзесятак гадоў і сёння літаральна вычарпалі свае рэзервы. Аднак штодзень да іх накіроўваюцца новыя і новыя кантэйнеры са смеццем. Штогод — гэта 3 мільёны кубаметраў адыходаў (палова ад прадпрыемстваў і арганізацый, столькі ж — ад насельніцтва) вагой каля 400 тысяч тон. Няцяжка падлічыць, што, такім чынам, смеццевыя "небасхілы" кожны год падрастаюць дзесьці на чатыры метры. Да неба ўжо — рукой падаць.

### НЯЎЛОЎНЫЯ ШКОДНІКІ

Як паведаміла вядучы спецыяліст сектара па кантролю за размяшчэннем і захаваннем адыходаў Мінскага гарадскога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Алена Валюжэніч, па сталіцы за першае паўгоддзе выяўлена і ліквідавана каля 30 несанкцыянаваных звалак. Нікога ўжо не здзіўляе, што, апроч смеццевага транспарту, рэдка які прыватны (дый службовы) аўтамабіль, гружаны адпаведным "таварам", зарульвае на палігоны. Навошта марнаваць час і траціць бензін? Куды лягчэй ад'ехаць колькі соцень метраў ад свайго дома (прадпрыемства, офіса) і выгрузіць усё гэта дзе-небудзь... ды дзе заўгодна! Напляваць! "Гэта наша адвечная бяда, — кажа А.Валюжэніч. — Не паспеем прыбраць адну такую звалку, як побач з'яўляецца новая. А парушальнікі, як правіла, застаюцца беспакаранымі. Бо робяць свае цёмныя справы альбо ноччу, альбо на золку. Таму і пастаянныя рэйды не прыносяць вынікаў. У лепшым выпадку які-небудзь свядомы выпадковы сведка запіша нумар такой машыны і паведаміць нам". Натуральна, штрафы, якія спаганяюцца з адзінкавых выяўленых парушальнікаў , не могуць пакрыць выдаткі на ліквідацыю ўсіх самавольных звалак. Даводзіцца раскашэльвацца гарадскому бюджэтнаму фонду аховы прыроды. На другое паўгоддзе ўжо выдзелена два мільярды рублёў.

### ШТО РАБІЦЬ?

**Апошнія гады гэта пытанне не на жарт усхвалявала чыноўнікаў і прымусіла яшчэ раз задумацца над вядомай усім еўрапейскім краінам ісцінай: адыходы трэба не выкідваць на звалкі, а перапрацоўваць, папярэдне наладзіўшы іх раздзельны збор. З мэтай укаранення падобных тэхналогій і ў нашай краіне ў жніўні гэтага года прынята рэспубліканская праграма ўтылізацыі камунальных адыходаў.**

**Адным з першапраходцаў на гэтым шляху можна назваць прыватнае прадпрыемства ў г.Ліда. (Перапрацоўкай прамысловых адыходаў займаецца ў асноўным канцэрн "Белдругрэсурсы".) Канешне, рухаецца справа пакуль малымі крокамі: спецыялізуючыся на шкле, металаломе, макулатуры, пластыкавых матэрыялах, з агульнага аб'ёму гарадскіх адыходаў адбіраецца на перапрацоўку ўсяго некалькі працэнтаў. Што і казаць, справа гэта і карысная, і перспектыўная, але на сённяшні дзень фінансава невыгодная. Калі б не дапамога нямецкіх інвестараў, лідская фірма, пэўна ж, доўга не працягнула б.**

**Усюдыісны недахоп сродкаў — вось галоўная перашкода на шляху рэалізацыі рэспубліканскай праграмы. Ва ўсім свеце прадпрыемствы, якія займаюцца ўтылізацыяй адыходаў, існуюць на дзяржаўных датацыях і пры льготным падаткаабкладанні. У нас, напэўна, гэтага не ўлічылі. Таму і працуюць новастворaныя прыватныя арганізацыі не інакш як на голым энтузіязме.**

**Дык які сэнс у тым, што мы навучымся раздзельна збіраць смецце, калі яго нікому не выгодна ўтылізаваць? Можа, варта пра гэта падумаць? Тым больш што на нашы сметнікі штогод выкідваецца розных каштоўных металаў і сыравіны ні многа, ні мала — на адзін трыльён рублёў.**

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

**Да 200-годдзя Адама Міцкевіча**

## ІМЯ, ЯКОМУ ЖЫЦЬ!

Завяршальным акордам міжнароднай канферэнцыі па тэме "Адам Міцкевіч і нацыянальная культура", якая праходзіла ў Мінску, стала ўрачыстае адкрыццё бібліятэкі імя Адама Міцкевіча ў Мінскім касцёле святых Сымона і Алены. Першая партыя кніг у колькасці 6,5 тысячы экземпляраў была перададзена Мінску мэрыяй Беластока 20 студзеня гэтага года.

Бібліятэкай імя Адама Міцкевіча будуць карыстацца ўсе, хто пажадае, найперш студэнцкая моладзь. Бібліятэка павінна стаць падмуркам культурна-асветніцкага цэнтра, у якім ужо сёння праводзяцца мастацкія выставы, дзейнічаюць духоўныя тэатры, працуе нядзельная школа.

На адкрыцці бібліятэкі выступілі член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, дэпутат Мінскага гарадскога савета Уладзімір Крук, намеснік міністра адукацыі Беларусі Алег Слука, дырэктар Нацыянальнага асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс, акадэмік Міхась Касцюк і настаяцель касцёла святых Сымона і Алены, прэзідэнт Хрысціянскага таварыства міласэрнасці Уладзіслаў Завальнюк.

Падчас знаёмства з кніжным фондам даспадобы прыйшліся развешаныя па сценах цудоўныя габелены "Адам Міцкевіч", "Легенда пра возера Свіцязь", "Зрэз часу. Наваградак", "Вялікі князь Вітаўт", "Святло Скарыны", "Карагод русалак".

**В.Ш.**

## КАНФЕРЭНЦЫЯ... ЧЫТАННІ...

8—9 верасня ў памяшканні Беларускага таварыства культурнай сувязі з замежнымі краінамі праходзіла Міжнародная навуковая канферэнцыя "Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры". У Мінск прыехалі навукоўцы з Вялікабрытаніі, Літвы, Польшчы, Украіны, Расіі. Працавалі дзве секцыі: "Гістарычная" і "Літаратуразнаўчая". Таксама можна было вылучыць падсекцыю "Мовазнаўчую". Навукоўцы мелі магчымасць абмяняцца меркаваннямі, вынікамі сваёй даследчай працы.

* * *

9 верасня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбыліся IV Міжнародныя Купалаўскія чытанні. У гэтым годзе яны былі прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча і называліся "Янка Купала і Адам Міцкевіч". Выступала каля 20 навукоўцаў. У дакладах разглядаўся ўплыў творчасці Міцкевіча на Янку Купалу і на ўвесь беларускі літаратурны рух. Аналізаваліся пераклады твораў Адама Міцкевіча на беларускую мову.

**Наш кар.**

## РОК-ФЕСТЫВАЛЬ У ГОНАР ПАЭТА-КЛАСІКА

Набліжаецца знамянальная дата для кожнага беларуса —200-я ўгодкі з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Па-свойму адзначаць гэтую дату беларускія рок-меламаны. Гарадзенскі рок-клуб імя Гары Брукера аб'явіў конкурс на ўдзел у рок-фестывалі, прысвечаным гэтай даце. Усе рок-гурты і выканаўцы, якія жадаюць удзельнічаць, павінны даслаць аўдыёкасету з запісам не менш пяці кампазіцый. Улічваючы стан беларускіх маладых гуртоў (а менавіта ім будзе ў першую чаргу аддадзена перавага), якасць запісу адвольная. Аўтарытэтнае журы, пасля праслухоўвання касет, выбера гурты для ўдзелу.

*Касеты трэба дасылаць на адрас: 230015, Гродна, вул. Будзённага, 48-а, пакой 31.*

**Вітаўт СУПРАНОВІЧ**

## НА АДНЫМ ПОХАПЕ ВЕТРУ



*Падчас сустрэчы Федэрыка Маёра з міністрам культуры Аляксандрам Сасноўскім у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

Прыезд на Беларусь Генеральнага дырэктара ЮНЕСКО і вядомага паэта Федэрыка Маёра Сарагосы чамусьці не выклікаў вялікай увагі нашай айчыннай прэсы. Да прыкладу, нядаўняе наведванне нашай краіны Андрэем Вазнясенскім зрабіла моцны рэзананс у грамадстве. Напэўна, перакладная паэзія з іспанскай успрымаецца намі ў нейкім іншым ракурсе, як нешта жывое і лірычнае, але замежнае... Магчыма, і кніжак іспанскага паэта на беларускіх паліцах замала. Мабыць, з гэтай прычыны да прыезду Федэрыка Маёра Сарагосы выдавецтва "Мастацкая літаратура" і выдала ягоны зборнік "Быць чалавекам". І, на маю думку, гэта, безумоўна, падзея. Вершы ў перакладзе на беларускую мову Зміцера Коласа і Алеся Істоміна чытаюцца лёгка, як бы на адным похапе ветру. Прычым, у кнізе паралельна даецца тэкст і на іспанскай мове — аматары прыгожага паэтычнага радка маюць магчымасць азнаёміцца з творчасцю іспанца і на ягонай роднай мове. Кніга аформлена вядомым беларускім мастаком Арленам Кашкурэвічам. Наклад навінкі толькі 500 асобнікаў.

**Віктар РАМОНКА**
**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**

## ГОРЫ, ЭКЗАТЫЧНЫЯ ПТУШКІ І КВЕТКІ



Па 26 верасня ў Выставачнай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва будзе экспанавацца выстава "Тайвань: учора і сёння". Дарэчы, праект зладжаны дзякуючы фонду эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж гарадамі Мінскам і Тайбэем (Фонд-ТайМін), Тайбэйскай гандлёва-эканамічнай місіі ў Мінску, Тайбэйска-маскоўскай каардынацыйнай камісіі па эканамічным і культурным супрацоўніцтве.

Выстава складаецца з трох частак: першая — фотаэкспазіцыя аб сучасным Тайвані, другая — старажытнакітайскае мастацтва з калекцыі Нацыянальнага музея гісторыі (г.Тайбэй, Тайвань), трэцяя — традыцыйны кітайскі жывапіс сучаснага тайваньскага мастака прафесара Лан-Сіун Вана і ягоных вучняў.

Здаецца, што ў сценах музея пасяліўся ўсходні дух. Горы, экзатычныя птушкі і кветкі, іерогліфы... Ад усяго патыхае незвычайным колерам, пластыкай, манерай, глыбінёй думкі. На наведніка нібы паціху накатваецца расплывістасць вобразаў, якія фіксуюцца як фотаздымкі.

Творы керамікі і парцэляны знаёмяць з мастацтвам перыядаў Тан (618-907 гг.), Мін (1368-1644 гг.) і Цін (1644-1911 гг.). Кераміка Танскага часу звязана з пахавальным культам. Рытуальныя рэчы дэкараваны ў палітры "санкаі" глазурамі каштанавага, зялёнага і карычневага колераў. Ёсць на выставе парцэляна, размаляваная кобальтам і пакрытая зверху празрыстай глазурай, перагародчатая эмаль, тонкі шоўк з мастацкімі краявідамі і многае-многае іншае.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

## А ВЫ ІГРАЛІ НА АРГАНЕ?



Вось бываюць жа людзі са знакавымі, як кажуць, імёнамі, калі што прозвішча, што імя — бы спецыяльна прыдуманыя для рамана. Сярод такіх — малады беларускі музыкант Расціслаў Выграненка. Прозвішча яго іграе самымі рознымі гранямі, між якіх нібыта выгранена "граць на аргане". Ну, а імя быццам прыстасавана для лозунга: расці, маўляў, слава музыканта. Дарэчы, сябры завуць яго проста Росцік — без усялякага "Слаўся!" напрыканцы, што прыхільнікамі сімвалізму можа быць без цяжкасці расшыфравана як пажаданне музыканту далейшага творчага росту і сталення.

Апошняе асабліва актуальна, бо Расціславу пакуль няма і дваццаці. Ростам жа ён не пакрыўджаны — і творчым у тым ліку. Атрымліваючы адукацыю піяніста, яшчэ ў ліцэі пачаў займацца ігрой на аргане: спачатку пад кіраўніцтвам маці Наталлі Выграненка, колішняй выпускніцы Ленінградскай кансерваторыі, потым пад наглядам саліста Белдзяржфілармоніі Канстанціна Шарава. Удзельнічаў у майстар-класах, якія праходзілі ў Германіі, Аўстрыі, Польшчы, у міжнародных фестывалях, што адбываліся ў Чэхіі, Польшчы, Беларусі. Атрымаў званне дыпламанта Першага міжнароднага конкурсу ў Варшаве.

Ды ўсё ж выканальніцтва не адзіная сфера яго дзейнасці. Ён спрабуе сябе і ў ролі даследчыка беларускага барока, і ў ролі аўтара музычных твораў, якія потым уключае ў свае канцэрты.

Між іншым, бліжэйшы сольны вечар Р.Выграненкі мае адбыцца 15 верасня ў Камернай зале Белдзяржфілармоніі — касцёле Св. Роха на Залатой горцы ў Мінску. Прыходзьце паслухаць музыку І.С.Баха: найбольш вядомыя харальныя прэлюдыі, знакамітую Такату d-moll, санату, фантазію, прэлюдыі і фугі. А калі што будзе не даспадобы, спішыце недахопы на хваробы росту маладога музыканта ці — напішыце фельетон "Окна Ростика". У любым выпадку Р.Выграненка толькі выйграе. Што зробіш, калі само імя спрыяе!

**Наш кар.**
**Фота Васіля МАЙСЯЁНКА**

## СВЯТКУЕМ РАЗАМ З ЕЎРОПАЙ? ТАК!

Што з'ядноўвае Беларусь у сярэдзіне верасня са Славакіяй, Літвой, Швецыяй, Нарвегіяй, Мальтай і яшчэ з вялікай колькасцю краін Еўропы? А тое, што ва ўсіх гэтых краінах 12—13 верасня будуць праходзіць Еўрапейскія Дні Спадчыны. Зразумела, Беларусь, напэўна, як цэнтр Еўропы, не магла не вылучыцца з агульнага шэрага: у нас святы будуць праходзіць на працягу трох дзён (11-13 верасня).

Для Беларусі ўдзел у правядзенні Еўрапейскіх Дзён Спадчыны стаў ужо традыцыйным. Пачынаючы з 1995 года, кожны верасень у нашай краіне, як і па ўсім кантыненце, адбываецца ўрачыстае ўшанаванне культурнага набытку нашых продкаў. Асабліва прыемна ўсведамляць, што падобныя мерапрыемствы праходзяць у гэты час у 44 краінах Еўропы. Увесь верасень Еўропа будзе актыўна "далучацца" да айчыннай спадчыны. Колькасць людзей, што ўдзельнічаюць у гэтых мерапрыемствах, у апошнія гады дасягае значных лічбаў. Напрыклад, у верасні 1997 года звыш 18 мільёнаў наведнікаў удзельнічалі ў шматлікіх мерапрыемствах, што былі арганізаваны каля 26 тысяч помнікаў і мясцін ва ўсіх кутках нашага кантынента.



*На прэс-канферэнцыі.*

Якая гісторыя ў Еўрапейскіх Дзён Спадчыны? Гэта адбылося ў 1991 годзе. Ініцыятыва зыходзіла ад Францыі, яна была падтрымана Саветам Еўропы. Гэта надавала магчымасць кожнаму чалавеку на працягу выхадных дзён у верасні бясплатна наведваць, даследаваць помнікі і мясціны, асабліва тыя, што звычайна не даступныя для звычайнага чалавека. Для лепшага ўзаемадзеяння паміж краінамі Саветам Еўропы, Еўрапейскім Саюзам і Фондам Караля Бадуэна былі заснаваны "Узнагароды Еўрапейскіх Дзён Спадчыны". Кожны год прысуджваецца шэсць узнагарод для аказання фінансавай дапамогі ў арганізацыі міжкультурных абменаў. На жаль, на прапанову Беларусі, каб у гэтым годзе Купалаўскі тэатр наведаў Вільню, Кракаў, Гародню са спектаклем "Князь Вітаўт" быў атрыманы адказ, што ў гэтым годзе вельмі шмат заяў. З гэтага адказу становіцца зразумела, што грант "коштам" у 6 тысяч ЭКЮ атрымаць нам сёлета не прыйдзецца.

Аднак Беларусь здольная і сама правесці неблагое свята. Сёлета адзначаюцца 200-я ўгодкі з дня нараджэння Адама Міцкевіча, і таму значная частка мерапрыемстваў Дзён Спадчыны прысвечана гэтай тэме. Напрыклад, 10 верасня адкрылася выстава дзіцячай творчасці ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Акрылены радком паэта", у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь разгорнута выстава "Шлях да Міцкевіча". Таксама праходзяць святы ў Навагрудку, Завоссі. Да гэтага можна далучыць шэраг паказаў відэа-, тэле-, дакументальных фільмаў пра гэтага выдатнага чалавека нашай роднай гісторыі.

А напярэдадні Дзён Спадчыны адбылася прэс-канферэнцыя з намеснікам міністра адукацыі Алегам Слукой, старшынёй Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Дзмітрыем Бубноўскім, намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай працы Міністэрства адукацыі Яўгеніяй Міхнюк. На ёй ішла размова пра названыя святы, і вельмі прыемна было пачуць, што гэтыя, чацвёртыя па ліку Еўрапейскія Дні Спадчыны ўпершыню маюць свой бюджэт. Зразумела, лічба ў 284 мільёны рублёў не надта ўражвае, але гэта адбываецца ўпершыню! Дзень пісьменства, адкрыццё музеяў-сядзіб, фільмы, выставы, віктарыны — усё гэта адбываецца ў Дні Спадчыны. Дзецям — пераможцам віктарыны "Спадчына—98" будуць паказаны спектаклі "Князь Вітаўт" Купалаўскага тэатра, "Барбара Радзівіл" Тэатра-лабараторыі "Вольная сцэна", "Тэатр купца Япішкіна" Тэатра-студыі кінаакцёра. Словам, святкуем разам з Еўропай.

**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## СПАДЧЫНА-98

У Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па правядзенні да Еўрапейскіх Дзён спадчыны віктарыны з адпаведнай назвай. На ім былі разгледжаны кандыдатуры і вызначаны пераможцы па ўсіх выданнях, якія бралі ўдзел у гэтай акцыі. Па віктарыне, змешчанай у газеце "Культура", пераможцам стаў Сяргей Краўчанка з вёскі Уллянавічы Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Ён і атрымае ад нас у падарунак падпіску "Культуры" на 1999 год. Віншуем, Сяргей! Былі адзначаны таксама Таццяна Флёрка з вёскі Ліпляны Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці і Ала Кашкавец з вёскі Сарачы Любанскага раёна Мінскай вобласці, хоць, на жаль, яны не здолелі ўвасйці ў лік пераможцаў, бо не на ўсе пытанні адказалі дакладна.

**Ул. інф.**

# КАБ НЕ ТОЛЬКІ НА ПАПЕРЫ

На працягу двух дзён у Доме прафсаюзаў праходзіла рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Публічныя бібліятэкі ў сучасным грамадстве: арыентацыі развіцця".

Адкрыла канферэнцыю дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Г. Алейнік. Затым перад прысутнымі ў зале выступілі міністр культуры РБ А.Сасноўскі, намеснік старшыні Федэрацыі прафсаюзаў М.Беланоўскі, старшыня Камітэта па друку РБ М.Падгайны і прэзідэнт Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі У.Сарока.

У ходзе пленарнага пасяджэння былі заслуханы даклады, якія асвятлялі агульны стан і дзейнасць розных бібліятэк Беларусі: В.Гедройца "Бібліятэчная палітыка і стратэгія развіцця публічных бібліятэк Беларусі", А.Сушы "Сучасны стан і перспектывы прафсаюзных бібліятэк рэспублікі", А.Васіленка "Станаўленне і развіццё новых тэхналогій у бібліятэках Магілёўшчыны". Госці з Расіі Я.Кузьмін і У. Фірсаў праінфармавалі аб сістэме публічных бібліятэк Расіі, праблемах іх мадэрнізацыі, нарматыўнай мадэлі дзейнасці. Вопытам кіравання сучаснай бібліятэкай у Германіі падзялілася В.Керсцін, даклад якой быў падмацаваны відэасюжэтам пра нямецкую бібліятэку.

Дакладчыкаў хвалявалі праблемы фінансавання, раскрадання і збяднення кніжных запасаў, аўтаматызацыі бібліятэк, стварэння сукупных інфармацыйных фондаў і выхаду ў міжнародную сістэму. Выступаючы ў "Свабодным мікрафоне", супрацоўнікі ЦБС Мазыра, Баранавічаў, Мінска, Барысава і іншых гарадоў гаварылі пра цяжкасці стварэння новага аблічча бібліятэк і атрымання неабходных кніг, пра адсутнасць прафесійна падрыхтаваных кадраў. Зноў і зноў уздымалася пытанне заработнай платы і фінансавання.

Падводзячы вынікі канферэнцыі, яе ўдзельнікі прыйшлі да высновы, што "нягледзячы на значныя эканамічныя праблемы ў краіне публічныя бібліятэкі знаходзяцца ў стане імклівага развіцця". Канферэнцыя выпрацавала наступны праект рэкамендацый: засваенне сучасных камп'ютэрных тэхналогій, распрацоўка неабходных нарматыўна-рэгламентуючых дакументаў; працяг практыкі забеспячэння публічных бібліятэк бясплатнай сацыяльна-значнай літаратурай; у сувязі з пашырэннем і ўскладненнем функцый бібліятэк перагледзець сістэму аднясення бібліятэк да групы па аплаце працы; падрыхтаваць прапановы ў Міністэрства сувязі аб выдзяленні адпаведных каналаў для ўваходу ў INTERNET; з 1999 года пачаць маркіроўку штрыхкодамі ўсёй выдавецкай прадукцыі; устанавіць прафесійнае свята "Дзень бібліятэк". Хацелася б, каб гэтыя рэкамендацыі засталіся не толькі на паперы.

**Ганна ВАШЧЫЛА, Іна РАДЗЬКО**

# МУЗЫЧНЫ ТЭАТР НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

Пра асобныя тамы выдання "Музычны тэатр Беларусі", вылучанага на атрыманне Дзяржаўнай прэміі, "Культура" пісала ўжо неаднойчы. Тым больш прыемна было даведацца, што 8 верасня на кафедры тэорыі музыкі Беларускага універсітэта культуры, якую ўзначальвае Аляксандр Смагін, адбылося шырокае грамадскае абмеркаванне гэтай серыі кніг.

Акрамя прадстаўнікоў вялікага аўтарскага калектыву (Галіны Куляшовай, Таццяны Мдзівані, Надзеі Юўчанка, Юліі Чурко), выступалі аспіранты Акадэміі навук, выкладчыкі, тэатральныя дзеячы. Яны звярнулі ўвагу на моцную нацыянальную аснову навуковай працы, вытрыманы баланс між гістарычнай і тэарэтычнай часткамі, ахопленасць усіх музычна-тэатральных жанраў, уключаючы нават музыку да драматычных спектакляў, глыбокі музыказнаўчы аналіз, што закранае не толькі партытуру, але і рэжысёрскае, сцэнаграфічнае, акцёрскае прачытанне твора. Асабліва падкрэслівалася унікальнасць выдання, шматпрофільная накіраванасць, што дазваляе яму быць не толькі навуковым даследаваннем, але і падручнікам па гісторыі беларускай музыкі. Адзінае шкадаванне, што было выказана, тычылася першага тома: на вялікі жаль, ён не мог быць вылучаны на прэмію, бо быў выдадзены ажно восем гадоў таму. Што ж, шматлікія рэцэнзенты і чытачы ўжо далі выданню вельмі высокую ацэнку. Апошняе слова — за камісіяй па прысуджэнні прэмій.

**Наш кар.**

# РАГВАЛОДАЎ КАМЕНЬ У ОРШЫ

***6 верасня малодшая сястра Мінска Орша прымала гасцей з усёй Беларусі, з Расіі, Украіны.***

На старажытную аршанскую зямлю прыйшло свята — Дзень беларускага пісьменства. Да тэатралізаванага шэсця, якім распачаліся ўрачыстасці, ахвотна далучыліся жыхары горада. Радавалі вока мясцовыя прыгажуні: маладыя дзяўчаты спецыяльна для гэтага свята апрануліся ў свае найлепшыя ўбранні. Літаральна ззялі чысцюткія вуліцы.



*Мемарыяльная дошка Спірыдону Собалю.*

У гістарычнай частцы Оршы, на Замчышчы, дзе праходзіла адкрыццё свята, віталі аршанцаў кіраўнікі Дзяржкамдруку і Міністэрства культуры Беларусі, прадстаўнікі дыпламатычных карпусоў Расіі і Украіны. Апошнія запэўнілі, што ў іхняй краіне ніколі не спынялася друкаванне кніг на беларускай мове. У якасці дару гораду Оршы яны прывезлі некалькі беларускамоўных украінскіх выданяў і таксама Канстытуцыю Украіны на беларускай мове. А ў расійскай дэлегацыі быў вучоны з Санкт-Пецярбурга, якія перадалі аршанцам выдатна выдадзены Радзівілаўскі летапіс.


*Помнік Уладзіміру Караткевічу.*


*Падчас урачыстага адкрыцця свята на Замчышчы.*

Затым перад гасцінным Краязнаўчым музеем Оршы быў адкрыты Рагвалодавы камень, дакладней, яго копія. Рагвалодаў камень — таксама вядомы помнік гісторыі, на якім быў выяўлены крыж і надпіс, прысвечаны князю Рагвалоду, але, на жаль, у час станаўлення савецкай улады гэты камень быў узараваны маладаеднаўчанымі змагарамі з рэлігіяй.

Непадалёк ад Краязнаўчага музея Оршы адкрылася экспазіцыя, прысвечаная вялікаму сыну гэтага горада — Уладзіміру Караткевічу. Тут можна пабачыць рукапісы пісьменніка, яго малюнкі, рэчы, якія належалі яму, таксама творы беларускіх мастакоў, напісаныя на тэму апавяданняў і раманаў Уладзіміра Караткевіча. Неўзабаве гэтая экспазіцыя пераедзе ў музей Уладзіміра Караткевіча.

У рамках свята была адкрытая мемарыяльная дошка, прысвечаная кнігадрукару і асветніку XVII ст. Спірыдону Собалю.

У гарадскім парку на "Паляне Пегаса" выступалі беларускія пісьменнікі, затым праходзіла дзіцячае свята "Напісанае застаецца". Шумеў і зіхацеў вырабамі майстроў кірмаш мастацтваў "Народныя вытокі".

Сапраўдным кульмінацыяй свята сталася тэатралізавана-гістарычнае відовішча "Рыцарскі двубой". Тут былі і спаборніцтвы ў фехтаванні старажытнай зброяй, і стральба з лукаў, і выездка коней. А паміж спаборніцтвамі былі балетна-танцавальныя нумары на сярэднявечную тэматыку. Яскрава, захапляльна, пазнавальна з любоўю да беларускай мінуўшчыны і сучаснасці было пастаўлена гэтае відовішча.

Напрыканцы свята Орша перадала тэстамент Пінску, які ў наступным годзе будзе адзначаць Дзень беларускага пісьменства. А завяршыліся ўрачыстасці гала-канцэртам майстроў мастацтва Беларусі і калектываў Оршы.

**Наш кар.**
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

# ПАД ЗНАКАМ НЕЎРАВА..

8 верасня ў Магілёве выглянула сонца. Горад ажывіўся. І не толькі таму, што надышлі цёплыя дзянькі. Ёсць яшчэ прычына. Некалі на Магілёўшчыне ў в.Лыскаўшчына доўгія гады жыў Мікалай Неўраў — вядомы рускі мастак-пейзажыст, які ў свой час з выкрывальнай сілай імкнуўся паказаць рэаліі тагачаснага жыцця. Тут, на Кругляншчыне, яго і пахавалі... Менавіта ў памяць аб ім працуе ў гэтыя дні Міжнародны пленэр "Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве". І гэта не першае падобнае мерапрыемства, якое праводзіць Магілёўскі абласны выканаўчы камітэт і Упраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкама. Традыцыйнымі ўжо сталі пленэры В.Бялыніцкага-Бірулі. Але ў гэтым годзе ўсё прысвечана Мікалаю Неўраву... Магчыма, з часам складзецца нейкая заканамернасць.

Тым не менш, у Магілёў з'ехаліся прадстаўнікі розных краін: Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Эстоніі. Зацікавілася і Францыя, якую прадстаўляў малады мастак Трынэль Луік. Адкрыццё пленэру праводзілася, як заўсёды, "на ўзроўні". Аказаўшы ветлівы прыём, губернатар А.Кулічкоў, ягоны намеснік Я.Касцюковіч і начальнік упраўлення культуры М.Дарашкоў пазнаёмілі гасцей з удзельнікамі пленэру.

Самае цікавае было наперадзе. І гэта не прэс-канферэнцыя і нават не гала-канцэрт (фальклорны фестываль) на плошчы перад Беларускай акадэміяй музыкі, дзе цудоўна выступілі народныя ансамблі песні і танца Расіі і Беларусі "Медуніца", "Навалецце", "Белая Русь", "Магілёўцы". Не важна, што колькасць удзельнікаў канцэрта перавышала колькасць гледачоў... Затое значна больш прысутнічала на адкрыцці выставы "Мая Беларусь" і персанальнай выставы народнага мастака Беларусі прафесара Віктара Грамыкі.

"Мая Беларусь" змясціла ў сваёй экспазіцыі творы знакамітых мастакоў — В.Цвіркі, П.Масленікава, А.Марачкіна, А.Гугеля, Г.Скрыпнічэнкі, У.Шпартава, Ф.Кісялёва і іншых. Дэманстравалася скульптура А.Анікейчыка, С.Бандарэнкі, У.Слабодчыкава. Дарэчы, вобраз Радзімы адлюстроўваўся не толькі ў пейзажах і партрэтах, але і ў цікавых вобразах постмадэрнісцкіх і абстракцыяністкіх твораў.

Маштабнай аказалася выстава В.Грамыкі, якая складалася і з эпічных пейзажаў, і з псіхалагічных партрэтаў. Амаль у кожным творы прасочваўся філасофска-маральны і эстэтычны ідэал, адчуваліся турботы дня сённяшняга і памяць пра перажытае...

Пленэр будзе працягвацца да 15 кастрычніка, пасля заканчэння пленэру цяц выніковая выстава ў Магілёве. Акрамя таго, мастакі-ўдзельнікі падорацць па адным сваім творы музею.

**Надзея ГРЫГОР'ЕВА, студэнтка факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

# ТРАДЫЦЫЯ НЕ ПАМІРАЕ

З прыходам восені па традыцыі пад Оршу на Крапіўнае поле прыязджаюць людзі. Прыязджаюць усёй сям'ёй ці па адным, прыязджаюць, ведаючы, што сустрэнуць сваіх сяброў, паслухаюць старыя і новыя песні, пазнаёмяцца з бардамі. І няхай няма ані сцэны, ані ўзмацняльнай апаратуры, ані асвятлення,— начная цішыня дапамажа барду, а прыкладзенае вогнішча і абагрэе змерзлыя пальцы, і асвятліць гітарныя лады.

Сёлета на пачатку верасня на Крапіўным полі таксама паўсталі намёты. І хаця былі не тысячы чалавек, як у лепшыя гады фестывалю, а каля двух дзесяткаў, настрой у "гітарычных турыстаў" быў бадзёры. Былі прадстаўнікі ўсіх абласцей Беларусі і мясцовыя жыхары. А выступалі пяць аўтараў: аршанска-гомельскі бард Андрэй Мельнікаў, Серж Мінскевіч з Мінска, і тры магілёўцы: Сяргей Кулягін, Ігар Мухін, Павел Пастухоў.

Усе разам спявалі добра вядомыя як у Беларусі, так і за яе межамі песні Андрэя Мельнікава "Казка", "Ясна панна", "Аршанская". Таксама Андрэй прапанаваў некалькі сваіх новых песень. Як пасля ён прызнаўся, у яго выспявае жаданне перапрацаваць некаторыя свае песні з дапамогай сінтэзатараў, камп'ютэраў, далучыць да творчага супрацоўніцтва музыкантаў (нагадаем, што існуе праект сумесных выступленняў Андрэя Мельнікава і гурта "Colorado beatles").

Агучыў свае песні з альбомаў "Жахі-хі" і "Шляхі-хі" Серж Мінскевіч. Таму, што нагода да стрэчы ля вогнішча была гістарычная, ён выканаў песню "Беларуская-гістарычная". Ну, а напаследак павесяліў усіх забаўным рок-н-ролам.

Моцнае, вострае і прыцягальнае было выступленне Ігара Мухіна. Тут былі і патрыятычная песня, і лірычная, і сяброўскі шарж на Віктара Шалкевіча. Некаторыя яго песні прысутныя прасілі выканаць на біс.

Вельмі цёпла былі прынятыя рамантычныя і тонкалірычныя песні і рамансы Сяргея Кулягіна. Падумалася, што аўдыёзборнік яго песень быў бы выдатным падарункам для каханай дзяўчыны. Захапляці паэтычнасць радка і мяккасць тэмбру голасу Сяргея.

Сваю індывідуальнасць і свае фарбы і вобразы, якія прымушаюць сачыць за развіццём паэтыкі і мелодыкі песні, мае Павел Пастухоў. Ён выдатна можа спалучыць асабістае і грамадскае. Вельмі надзённай аказалася яго песня на верш Рыгора Барадуліна, прысвечаны Адаму Міцкевічу, 200-годдзе з дня нараджэння якога шырока адзначаецца ў свеце. Прыемна і тое, што малады бард Павел Пастухоў звяртаецца да паэзіі нашага выдатнага майстра слова. У Паўла ёсць і яшчэ песні на словы Рыгора Барадуліна. Сапраўды, самая вялікая ўзнагарода для паэта — гэта прызнанне і павага маладога пакалення. Рыгор Барадулін мае іх, і сам не толькі натхняе маладых творцаў на стварэнне песень, але і дапамагае ў творчай працы. Так, напрыклад, ён курыраваў пераклад паэмы "Дзяды" Адама Міцкевіча, які рабіў Серж Мінскевіч.

Дарэчы, адным з завадатараў сёлетняга збору на Крапіўным полі быў вядомы мастак Алесь Пушкін. Што ж, традыцыя спаткання з бардаўскай песняй пад Оршай жыве і спрые іншым культурным традыцыям.

**Сымон ПТАХ**

## Панядзелак, 14 верасня

### Беларускае тэлебачанне

7.00 Добрай раніцы, Беларусь!
8.00 Рэзананс.
8.50 Тэлебарометр. Прагноз надвор"я.
9.05 Спажывецкі кошык. Сацыяльна-эканамічная праграма.
9.20 Прэм"ера песні.
9.35 Мульціклуб.
10.10 Здароўе. "Разам супраць курэння".
10.40 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі". Тэлесерыял (ЗША).
11.35 Абібок.
12.05 Тэленавігатар.
12.25 "А музыка гучыць..." Канцэрт ансамбля рускай песні "Золотое кольцо".
13.00 Навіны.
13.15 Дзённы сеанс. А.Кузняцоў у тэлевізійным мастацкім фільме "Яго адпачынак" ("Беларусьфільм").
14.35 Параграф. Перадача для беспрацоўных.
15.00 Навіны.
15.15 Відэакурс французскай мовы. Перадача 22-я.
15.40 "Дзяўчынка і акіян". Тэлесерыял (Аўстралія).
16.05 "Чаму сланы?" Мультфільм.
16.20 Радавод. Абрад "Жаніцьба Коміна".
16.30 Рэгіён. Перадача з Гомеля.
17.05 "Лідскае капрычыо". Дакументальны фільм Беларускага тэлебачання.
17.30 Госці ў дом. Святы усходніх краін.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі". Тэлесерыял (ЗША).
19.15 Беларускі хіт-парад.
19.25 "Сёння з вамі..." Намеснік начальніка Беларускай чыгункі Уладзімір Рынг. .
20.05 Трэці тайм.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.55 "Смяяцца - не грэх". Забаўляльная праграма "Панядзелак з "Хрыстафорам".
22.15 Фільмы нашай памяці. Рыма Маркава ў мастацкім фільме "Бабіна царства" ("Масфільм").
23.45 Навіны.
24.00 IV Віцебскі фестываль "Песні юнацтва нашых бацькоў". Перадача з Віцебска.

### ГРТ

17.00, 23.55 Навіны.
17.20 "Раксалана — палонніца султана". Серыял.
18.00 Надвор'е.
18.05 Гадзіна пік.
18.30 Адгадай мелодыю.
19.00 Панядзелак з Познерам. Праграма "Мы".
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 "Горац". Серыял.
21.50 "Сярэбраны шар".
22.35 А. С. Пушкін: збор кінатвораў. "Станцыйны дазорац".

### Расія

16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
16.30 "Башня".
16.55 Прагноз надвор'я.
17.00 Каханне з першага погляду.
17.30 Аўтаспорт.
18.30 "Брудныя танцы". Серыял.
19.30 Падрабязнасці.
19.45 Сам сабе рэжысёр.
20.15 "Падпольныя асы". Камедыя.
22.00 Акуна матата.
23.30 Аўташоу.
23.55 Прагноз надвор'я.
.00 Праграма перадач.

### Культура

7.05, 13.00, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
7.20 Надвор'е.
7.25 Арыі з оперы "Танкрэд".
7.35 Міжнародны агляд.
8.15 Мультфільм.
9.00, 11.00, 15.00, 17.00 Навіны.
9.05 "Кіно ўчора і заўсёды".
9.30 "У кампаніі Макса Ліндэра". Маст. фільм.
11.05 Кніжная скарбніца.
11.20 Рамансы ў выкананні Святланы Сялюніной.
11.35 "Гарганцюа і Пантагруэль". Раздзелы з кнігі.
12.20 "Царская ложа".
13.15 "Без візы".
13.25 "Літаратура і Альфрэд Шнітке".
13.50 М. Горкі. "Маці здрадніка".
14.15 Парадоксы гісторыі.
14.45 Разам з Фафалем.
15.05 Мультфільмы.
15.50 "Лукамор'е".
16.10 Баярскі двор.
16.40 "Тэатр аднаго мастака".
17.05 "2003".
17.10 "Пецярбургскія партрэты".
17.35 Свет авіяцыі.
18.00 "Хірург Вішнеўскі", "Раіса Нямчынская — артыстка цырка". Дак. фільмы.
19.00 "З сімфанічным аркестрам вакол свету".
19.15 Цуд-казка.
19.50 Спявачка Алена Камбурава.
20.15 "Зоркі, якія не гаснуць".
20.45 Пасля навін...
21.05 "Дзядзечкаў сон". Спектакль, частка 1-я.
23.20 Праграма перадач.

### НТБ

5.00 Сёння раніцай.
8.10 "Яе звалі Нікіта". Серыял.
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
9.15 Учора ў "Выніках".
10.35 Вынікі. Начная размова.
11.20 "Стары тэлевізар".
13.15 "Каханне і тайны Сансет Біч".
14.00 Сённячка.
15.15 "Вуліца Сезам".
15.45 "Дзіўныя падарожжы Геракла". Серыял.
16.35 "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
17.30 У запас.
17.40 Крымінал.
18.40 Герой дня.
19.00 Дэтэктыў "Карупцыя ў палацы правасуддзя".
21.40 "Яе звалі Нікіта". Серыял.
22.35 Сённячка.
23.15 Сёння апоўначы.
23.40 Футбольны клуб.

### 8-ы канал

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 Мультфільм.
19.00 "Дзіўныя гісторыі". Серыял.
20.00 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.30 Вечарніца.
20.45 Today.
21.10 Медыцына і здароўе.
21.15 "Адказнае рашэнне". Маст. фільм.

## Аўторак, 15 верасня

### Беларускае тэлебачанне

7.00 Добрай раніцы, Беларусь!
8.00 Навіны.
8.15 Музычны антракт.
8.30 "Жартаўнікі з Лагішына". Тэленарыс пра народны калектыў Лагішынскага Дома культуры.
8.50 Спажывецкі кошык. Сацыяльна-эканамічная праграма.
9.05 Аўта-парк.
9.15 "Землякі". Светлагорскі раён.
10.15 Тураб"ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
10.40 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі". Тэлесерыял (ЗША).
11.35 Бон тон. Тэлечасопіс моды.
12.00 Госці ў дом. Святы ўсходніх краін.
12.25 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
13.00 Навіны.
13.15 "Магістр лялечнага тэатра". Народны артыст Беларусі Анатоль Ляляўскі.
14.05 Музычны салон з Элеанорай Язерскай. "Забытыя куміры?.. "АББА".
14.35 "Макаёнка,9". Інфармацыйна-аналітычная праграма па пісьмах гледачоў.
15.00 Навіны.
15.10 "Д"Артаньгаў і тры сабакі". Мультсерыял (ЗША).
15.35 "Дзяўчынка і акіян". Тэлесерыял (Аўстралія).
16.00 Тэлебачанне - школе. Беларуская літаратура. 8-ы клас. Еўфрасіння Полацкая і яе жыццё.
16.30 Урокі Наталлі Важылавай.
17.00 Канцэртны сезон. Другі міжнародны фестываль арганнай музыкі "Званы Сафіі". Частка 4-я. Перадача з Віцебска.
17.30 Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, быт.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі". Тэлесерыял (ЗША).
19.15 Беларускі хіт-парад.
19.25 "Сёння з вамі..." Дырэктар мінскага кінатэатра "Змена" Ніна Макрыцкая. .
20.05 Музыка без межаў. Музычна-інфармацыйная праграма.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.55 "Смяяцца - не грэх". Забаўляльная праграма "Спікер-хата".
22.15 Экран беларускага кіно. Мастацкі фільм рэжысёра Віктара Дашука "Двое на востраве слёз".
23.50 "Канкан". Тэленарыс пра Гродзенскі маладзежны тэатр гумару.
24.00 Навіны.
0.15 Міжнародныя спартыўныя навіны.

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.05 Навіны.
8.15 "Раксалана — палонніца султана".
9.00 Праграма У. Познера "Мы".
9:45 Смехапанарама.
10.20 Дамашняя бібліятэка.
10.30 Адгадай мелодыю.
11.15 Праграма "Разам".
14.20 "Цін-Цін ідзе па следу". Мультсерыял.
14.55 Шчаслівы выпадак.
15.40 "Новыя прыгоды Сіндбада".
16.10 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Вакол свету.
17.20 "Раксалана — палонніца султана".
18.00 Футбол. Кубак УЕФА. "Дынама" (Масква)— "Сконта" (Рыга).
18.50 Добрай ночы, малышы!
19.50 Надвор'е.
20.00 Час.
20.40 Аляксандр Збруеў у дэтэктыве "Два білеты на дзённы сеанс".
22.40 "Песня года". Выбранае.
23.20 Хакей. Еўраліга. "Літвінаў" (Чэхія)—"Ак Барс" (Казань).
1.00 Праграма перадач.

### Расія

6.00 Добрай раніцы, Расія.
9.00 "Санта-Барбара". Серыял.
9.45 "Як ільвяня і чарапаха спявалі песню". "Цудрэва". Мультфільмы.
10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
15.15 "Пазваніце Кузю!"
15.30 "Першыя пацалункі". Серыял.
16.30 "Башня".
17.00 Красворд.
17.30 "Матулі, жонкі і палюбоўніцы". Серыял.
18.30 "Брудныя танцы". Серыял.
19.30 Падрабязнасці.
19.45 "Аншлаг" прадстаўляе.
20.15 "Стаўкі зроблены". Дэтэктыў (Францыя).
22.05 "Псі фактар". Серыял.
23.30 Творчы вечар Алега Іванова.
0.20 Прагноз надвор'я.

### Культура

7.05, 13.00, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
7.20 Надвор'е.
7.25 "Хірург Вішнеўскі", "Раіса Нямчынская — артыстка цырка". Дак. фільмы.
8.25 "Жонкі геніеў". С. А. Талстая.
9.00, 11.00, 15.00, 17.00 Навіны.
9.05 "Вялікі каньён". Дак. фільм.
10.05 П. І. Чайкоўскі. Сімфонія № 5.
11.05 Шасцёрка чырваў — шчаслівая дарога.
11.35 Пра фота.
12.00 Спадарожнік Пільняк.
12.30 "Хто мы?"
13.15 "Залатая карта Расіі". Гарахавец.
13.45 Варыяцыі на іспанскую тэму.
14.30 "Куміры". С. Філіпаў.
15.05 "Школьны настаўнік". Серыял.
15.50 "Лукамор'е".
16.10 "Жылі-былі".
16.35 "Уводзіны ў інтуіцыю".
17.05 "2003".
17.10 Ноу-хау.
17.25 Час Мераба.
18.05 "Душа не вандроўніца", "Засталася душа яго тут". Дак. фільмы.
18.55 "З сімфанічным аркестрам вакол свету".
19.10 Цуд-казка.
19.50 "Слава/Глорыя".
20.45 Пасля навін...
21.05 Спектакль "Дзядзечкаў сон". Частка 2-я.
23.20 Праграма перадач.

### НТБ

15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
15.15 "Вуліца Сезам".
15.45 "Дзіўныя падарожжы Геракла".
16.35 "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
17.30 У запас.
17.40 Крымінал.
18.40 Герой дня.
19.00 Камедыя "Радавы бенджамін" (ЗША).
21.40 "Яе звалі Нікіта". Серыял.
22.35 Сённячка.
23.15 Сёння апоўначы.
23.40 Футбольны клуб.

### 8-ы канал

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 Мультфільм "Пастушка і трубачыст".
19.00 "Дыягназ — забойства".
20.00 Еўропа сёння.
20.30 Вечарніца.
20.45 "Горац". Серыял.
21.30 Музпарад.
22.00 Драма "Што датычыцца Генры".

## Серада, 16 верасня

### Беларускае тэлебачанне

7.00 Добрай раніцы, Беларусь!
8.00 Навіны.
8.20 Бархатны сезон. Музычна-забаўляльная праграма.
8.50 Спажывецкі кошык. Сацыяльна-эканамічная праграма.
9.05 Тэлебачанне - школе. Беларуская літаратура. 8-ы клас. Еўфрасіння Полацкая і яе жыццё.
9.35 Сядзіба. Праграма для дачнікаў.
10.00 Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, быт.
10.35 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі". Тэлесерыял (ЗША).
11.25 Відзьмо-невідзьмо.
12.25 "А музыка гучыць..." Фолк-група "Палац".
13.00 Навіны.
13.15 Дзённы сеанс. "Звон адыходзячага лета". Тэлевізійны мастацкі фільм ("Беларусьфільм"). 1-я серыя.
14.20 "Квакша". Мультфільм.
14.40 Музычны антракт.
15.00 Навіны.
15.10 Відэакурс французскай мовы. Перадача 23-я.
15.35 "Дзяўчынка і акіян". Тэлесерыял (Аўстралія).
16.00 "5x5". Інфармацыйна-забаўляльная праграма для старшакласнікаў.
16.30 Наваколле. Сацыяльна-экалагічная праграма.
17.00 Маналог. Пісьменнік Леанід Левановіч.
17.30 Лёс мой і надзея. Сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі". Тэлесерыял (ЗША).
19.15 Беларускі хіт-парад.
19.25 "Сёння з вамі..." Мастак Іван Кліменка.
20.00 Каралеўскае паляванне.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.55 "Смяяцца - не грэх". Забаўляльная праграма "Кінастружка".
22.15 А.Жырардо і Б.Андэрсан у мастацкім фільме "Каханне пад сумненнем" (Францыя).
23.55 Навіны.
0.10 Баскетбол. Кубак Корача. РТІ-АЗАА (Асіповічы) - "Камфорт" (Старгард, Польшча). 2-гі тайм.
0.50 Цёмны пакой. "Крымінал і фінансы".

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.45 Навіны.
8.15 "Раксалана — палонніца султана".
9.00 Хакей. "Літвінаў" (Чэхія)—"Ак Барс" (Казань).
9.40 У свеце жывёл.
10.20 Дамашняя бібліятэка.
10.25 Джэнтльмен-шоу.
11.15 Праграма "Разам".
14.20 Мультсерыял "Цін-Цін ідзе па следу".
14.45 Класная кампанія.
15.15 Покліч джунгляў.
15.40 Серыял "Новыя прыгоды Сіндбада".
16.10 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Вакол свету.
17.20 "Раксалана — палонніца султана".
18.00 Надвор'е.
18.05 Гадзіна пік.
18.30 Леанід Ярмольнік у праграме "Залатая ліхаманка".
19.10 Чалавек і закон.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Містычны баявік "Лавец сонца".
23.00 Дак. дэтэктыў "Забойства ў манастыры".

### Расія

6.00 Добрай раніцы, Расія.
9.00 "Санта-Барбара".
9.45 "Стронг" прадстаўляе.
9.50 На заметку.
10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
15.15 "Пазваніце Кузю!"
15.30 Серыял "Першыя пацалункі".
16.30 "Башня".
16.55 Прагноз надвор'я.
17.00 Ваяж-турнір.
17.30 Серыял "Матулі, жонкі і палюбоўніцы".
18.30 Серыял "Брудныя танцы".
19.30 Падрабязнасці.
19.45 "Два раялі".
20.30 Эксцэнтрычная кінакамедыя "Вустрыцы з Лазаны".
22.00 Серыял "Агата Крысці. Пуаро".
23.30 Гарачая дзесятка.
0.25 Прагноз надвор'я.

### Культура

15.00, 17.00 Навіны.
15.05 Серыял "Школьны настаўнік".
15.55 "Лукамор'е".
16.15 Руская віла ў цэнтры Рыма.
17.05 "2003".
17.10 "Закрытая кніга".
17.50 З любоўю з Тбілісі.
18.45 Урыўкі з твораў А. С. Пушкіна.
19.15 Цуд-казка.
19.30, 23.00 Навіны культуры.
19.50 "І.-С. Бах. Старонкі жыцця і творчасці".
20.45 Пасля навін...
21.05 Серыял "Вялікія перамены".
21.55 Героі Кірыла Лаўрова.
22.35 Успамінаючы конкурс імя П. І. Чайкоўскага.

### НТБ

5.00 Сёння раніцай.
8.10 Лепшыя цыркі свету.
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
9.15 Баявік "Гатовы да бою" (Італія).
10.40 "Серада".
11.15 Маст. фільм "Ажыўлены лес" (Іспанія).
13.15 Серыял "Каханне і тайны Сансет Біч".
14.00 Сённячка.
15.15 "Вуліца Сезам".
15.45 Серыял "Дзіўныя падарожжы Геракла".
16.35 Серыял "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
17.30 У запас.
17.40 Крымінал.
18.40 Герой дня.
19.00 Баявік "Хамелеон" (ЗША).
21.35 Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Штурм" (Грац, Аўстрыя)— "Спартак" (Масква, Расія).
23.35 Сённячка.
0.10 Сёння апоўначы.
0.35 Ток-шоу "Прыцемкі".
1.00 Агляд матчаў Лігі чэмпіёнаў па футболу.

### 8-ы канал

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 Мультфільм "Снежная каралева". 1-я частка.
19.00 Серыял "Дыягназ — забойства".
20.00 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.30 Вечарніца.
20.45 Серыял "Горац".
21.45 Формула бяспекі.
22.15 Баявік "Хуткія грошы".

## Чацвер, 17 верасня

### Беларускае тэлебачанне

13.00 Навіны.
13.13 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі" .Тэлесерыял (ЗША).
14.05 "Усе мы родам з дзяцінства". Трэці Усебеларускі фестываль юных талентаў. Фінал. Частка 3-я.
15.00 Навіны.
15.15 "Дзяўчынка і акіян". Тэлесерыял (Аўстралія).
15.40 Тэлебачанне - школе. Гісторыя Беларусі. 11-ы клас. Культура Беларусі (канец XVIII - першая палова XIX стст.)
16.20 Спажывецкі кошык. Сацыяльна-эканамічная праграма.
16.35 Музычны антракт.
16.45 "Спектр. Галерэі XX стагоддзя". Мастацкая галерэя імя Івана Хруцкага ў Полацку.
17.05 "Жылі-былі людзі". Дакументальны фільм Беларускага тэлебачання.
17.25 Канцэртны сезон. Другі міжнародны фестываль арганнай музыкі "Званы Сафіі". Частка 5-я. Перадача з Віцебска.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.18 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі". Тэлесерыял (ЗША).
19.10 Беларускі хіт-парад.
19.20 "У люстэрку Нясвіжа". Відэазамалёўка.
19.30 "Сёння з вамі..." Старшыня Нясвіжскага райвыканкама Уладзімір Дражын. Да Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу "Дажынкі-98".
20.05 Зроблена ў Беларусі. "Дажынкі-98".
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.55 "Смяяцца - не грэх". Забаўляльная праграма "Адбой".
22.15 К.Лаўроў у мастацкім фільме "З юбілеем пачакаем" ("Беларусьфільм").
23.45 Навіны.
24.00 "Крок". "Дажынкі-98". Калгас "Радзіма" Нясвіжскага раёна.
0.20 Крымінальная хроніка.
0.40 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.00 Навіны.
8.15 "Раксалана — палонніца султана".
9.00 Чалавек і закон.
9.35 Пакуль усе дома.
10.20 Дамашняя бібліятэка.
10.25 Тэлегульня "Гэтыя забаўныя жывёлы".
11.15 Праграма "Разам".
14.20 Мультсерыял "Неверагодныя прыгоды Джоні Квеста".
14.45 Класная кампанія.
15.10 Дзіцячыя анекдоты.
15.40 Серыял "Новыя прыгоды Сіндбада".
16.10 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Вакол свету.
17.20 "Раксалана — палонніца султана".
18.00 Надвор'е.
18.05 Гадзіна пік.
18.30 Тэлегульня "Гэтыя забаўныя жывёлы".
19.05 "У пошуках страча

Як? Ты яшчэ не была на "Тытаніку"?!

"К"лапатулькі
Дзяніса ЛАПАЦІНА,
студэнта культуралагічнага факультэта БУКа.

нага". Ісаак Дунаеўскі.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Ірына Купчанка ў фільме "Адзінокая жанчына жадае пазнаёміцца".
22.30 Серыял "Трынаццаць чэмпіёнаў".

**Расія**

6.00 Добрай раніцы, Расія.
9.00 "Санта-Барбара".
9.45 Свет здароўя.
9.50 На заметку.
10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
15.15 "Пазваніце Кузю!"
15.30 Серыял "Першыя пацалункі".
16.30 "Башня".
16.55 Прагноз надвор'я.
17.00 Слабо?
17.30 Серыял "Матулі, жонкі і палюбоўніцы".
18.30 "Брудныя танцы".
19.30 Падрабязнасці.
19.45 "Добры вечар!" Выбранае.
20.15 Гангстэрская камедыя "Каратышка з Маямі" (ЗША).
22.05 Серыял "Прытворшчык".
23.30 Адамаў яблык.
23.55 Прагноз надвор'я.

**Культура**

7.05, 13.00, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
7.20 Надвор'е.
7.25 "Пецярбургскія партрэты".
7.50 "Скарбы Паўночнага Захаду". Дак. фільм.
9.00, 11.00, 15.00, 17.00 Навіны.
9.05 Серыял "Вялікія перамены".
10.05 "І.-С. Бах. Старонкі жыцця і творчасці".
11.05 "Вашых душ залатыя россыпы".
11.35 "Урокі музыкі". Спектакль. Частка 2-я.
12.40 "Тэатр аднаго мастака".
13.15 "У гонар рускага балета".
14.20 "Асеннія партрэты".
14.50 Выступае вакальны ансамбль "Scholars of London".
15.05 Серыял "Школьны настаўнік".
15.50 "Лукамор'е".
16.10 Акадэмія спорту.
16.30 "Пераадоленне хаосу".
17.05 "2003".
17.10 "Расійскі кур'ер". "Рэспубліка Комі".
17.50 Новае кіно.
18.15 Імгненне майстэрства.
18.45 Тайна старой графіні.
19.15 Цуд-казка.
19.50 "І.-С. Бах. Старонкі жыцця і творчасці".
20.35 Італьянская паэзія.
20.45 Пасля навін...
21.05 Серыял "Вялікія перамены".
22.05 "Мне от любви покоя не найти..." Санеты Шэкспіра.
22.30 Джазафрэнія.
23.20 Праграма перадач.

**НТБ**

5.00 Сёння раніцай.
8.10 Серыял "Яе звалі Нікіта".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
9.15 Маст. фільм "Сярод шэрых камянёў".
10.40 Мультфільм "Бабры ідуць па следу".
11.20 "Стары тэлевізар".
13.15 "Каханне і тайны Сансет Біч".
14.00 Сённячка.
15.15 "Вуліца Сезам".
15.45 Серыял "Дзіўныя падарожжы Геракла".
16.35 Серыял "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
17.30 У запас.
17.40 Крымінал.
18.40 Герой дня.
19.00 Баявік "Паліцэйская гісторыя-1" (Ганконг).
20.40 "Лялькі".
21.40 Серыял "Яе звалі Нікіта".
22.35 Сённячка.
23.15 Сёння апоўначы.
23.40 "Залаты грамафон".
0.05 Дзённік Лігі чэмпіёнаў па футболу.

**8-ы канал**

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 "Снежная каралева". 2-я частка.
19.00 Серыял "Дыягназ — забойства".
20.00 Навіны "К-відэа".
20.30 Вечарніца.
20.45 Серыял "Горац".
21.45 Тэлеканал "Альфа".
22.00 Камедыя "Валанцёры".

## Пятніца, 18 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

7.00 Добрай раніцы, Беларусь!
8.00 Навіны.
8.15 "Сёння з вамі..." Старшыня Нясвіжскага райвыканкама Уладзімір Дражын. Да Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу "Дажынкі-98".
8.50 Спажывецкі кошык. Сацыяльна-эканамічная праграма.
9.05 Тэлебачанне - школе. Гісторыя Беларусі. 11-ы клас. Культура Беларусі (канец XVIII - першая палова XIX стст.).
9.45 "Пераход". Наркаманія сярод падлеткаў.
10.05 Лёс мой і надзея. Сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў.
10.30 Каралеўскае паляванне.
11.08 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі". Тэлесерыял (ЗША).
12.00 "Вяртанне ў мінулыя "Дажынкі". Тэленарыс.
12.30 "А музыка гучыць..." Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г.І.Цітовіча.
13.00 Навіны.
13.15 Дзённы сеанс. "Звон адыходзячага лета". Тэлевізійны мастацкі фільм ("Беларусьфільм"). 2-я серыя.
14.20 Зорная ростань. Тэлевізійны конкурс маладых артыстаў эстрады. Анонсовая праграма.
15.00 Навіны.
15.15 Відэакурс французскай мовы. Перадача 24-я.
15.40 "Д"Артаньгаў і тры сабакі". Мультсерыял (ЗША).
16.05 "Дзяўчынка і акіян". Тэлесерыял (Аўстралія).
16.30 Творчае маладзёжнае аб"яднанне "Крок". "Рызыка-версія". Тэлегульня.
17.00 Урокі Наталлі Наважылавай.
17.30 "Гаспадыня Нясвіжа", "Нясвіжскі фарны". Дакументальныя фільмы Беларускага тэлебачання.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.18 "Дынастыя-2. Сям"я Колбі". Тэлесерыял (ЗША).
19.10 Беларускі хіт-парад.
19.15 "У люстэрку Нясвіжа". Відэазамалёўка.
19.25 "Сёння з вамі..." Віцэ-прэм"ер Уладзімір Гаркун. Да Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу "Дажынкі-98".
20.05 "Дажынкі-98". Рэпартаж аб адкрыцці Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі ў г.Нясвіжы Мінскай вобласці.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
22.00 "Дажынкі-98". Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля "Песняры".
22.50 "Смяяцца - не грэх". Забаўляльная праграма "Банка комікса".
23.05 Абібок.
23.35 Аўта-парк.
23.45 "Відэапрацэс". Забаўляльная праграма.
24.00 Навіны.
0.15 Начны сеанс. "Прыгавор". Мастацкі фільм (Італія-Францыя).

**ГРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20 Навіны.
8.15 "Раксалана — палонніца султана".
9.05 Клуб падарожнікаў.
9.55 Смак.
10.15 Дамашняя бібліятэка.
10.25 Грай, гармонік любы!
11.15 Праграма "Разам".
14.20 Кіназказка Рэя Брэдберы "Штосьці страшнае наступае".
15.55 Вуліца Сезам.
16.25 Валерый Сюткін у праграме "Паддашак Фруціс".
17.20 "Раксалана — палонніца султана".
18.05 Надвор'е.
18.10 Здароўе.
18.45 Поле цудаў.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Эркюль Пуаро ў дэтэктыве "Забойства ў трох актах".
22.35 Погляд.
23.35 Шпіёнскі трылер "Кодавае імя — Салдат".
1.10 Праграма перадач.

**Расія**

6.00 Добрай раніцы, Расія.
9.00 Серыял "Санта-Барбара".
9.45 Свет здароўя.
9.50 На заметку.
10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
15.15 "Пазваніце Кузю!"
15.30 Серыял "Першыя пацалункі".
16.30 "Башня".
16.55 Прагноз надвор'я.
17.00 "Ва ўсіх на вуснах".
17.30 Серыял "Матулі, жонкі і палюбоўніцы".
18.30 "Мар'ін гай".
19.30 Падрабязнасці.
19.45 "Гарадок".
20.20 Маскі-шоу.
21.20 Музычны рынг.
23.30 Псіхалагічная драма "Алена ў скрыні" (ЗША).
1.10 Прагноз надвор'я.

**Культура**

7.00 Праграма перадач.
7.05, 13.00, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
7.20 Надвор'е.
7.25 "Пераадоленне хаосу".
7.55 Кансіліум.
8.20 "Расійскі кур'ер". "Рэспубліка Комі".
9.00, 11.00, 15.00, 17.00 Навіны.
9.05 Серыял "Вялікія перамены".
9.50 "І.-С. Бах. Старонкі жыцця і творчасці".
10.35 Лёс афіцэра.
11.05 "Рускае памесце".
11.35 Г. Свірыдаў "Духоўныя песнапенні".
12.15 Творчы вечар Г. Бакланава.
13.15 "Без візы".
13.25 Элегія. Амалія Рызніч.
13.55 "Дом, дзе саграваюцца сэрцы".
14.45 Разам з Фафалем.
15.05 Серыял "Школьны настаўнік".
15.50 "Лукамор'е".
16.05 Антыкварная опера.
17.05 "2003".
17.10 Музеум.
17.40 "Вечар з..."
19.10 Цуд-казка.
19.50 "Ад Маісеева да Маісеева".
20.45 Пасля навін...
21.05 Серыял "Вялікія перамены".
21.50 Іграе Дзяржаўны акадэмічны камерны аркестр Расіі.
22.00 "...Я не ўбачу славутай Федры..."
23.20 Праграма перадач.

**НТБ**

5.00 Сёння раніцай.
8.30 "Рускі век".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
9.15 Тэлегульня "Ключы ад форта Байяр" (Францыя).
11.20 "Стары тэлевізар".
13.15 "Каханне і тайны Сансет Біч".
14.00 Сённячка.
15.15 Дог-шоу "Я і мой сабака".
15.45 "Дзіўныя падарожжы Геракла".
16.30 Дак. серыял "Любоўныя гісторыі, якія ўсхвалявалі свет".
17.00 Футбольны клуб.
17.30 У запас.
17.40 Крымінал.
18.40 Герой дня.
19.00 Дэтэктыў "Шосты".
20.35 "Лялькі".
21.45 "Увесь Жванецкі". 2-я серыя.
22.15 Маст. фільм "Каханне — гэта зброя" (ЗША).

**8-ы канал**

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 Маст. фільм "Учарашняя мішэнь".
20.00 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.30 Вечарніца.
20.45 Серыял "Ілюзія забойства".
21.30 Медыцына і здароўе.
21.45 Маст. фільм "Чужыя".

## Субота, 19 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

7.00 Добрай раніцы, Беларусь!
8.00 Навіны. Спецвыпуск.
8.15 Серыял па выхадных. "Чатыры танкісты і сабака" (Польшча). Заключная серыя.
9.25 Здароўе. "Сіндром Дауна".
9.50 Сталіца. Інфармацыйна-аналітычная праграма.
10.15 "Усё нармальна, мама!" Забаўляльная праграма.
10.45 "Дажынкі-98". Рэпартаж з Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу.
11.30 "Дажынкі-98". Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі на Рэспубліканскім фестывалі-кірмашы. Ушанаванне пераможцаў жніва.
13.00 "У люстэрку Нясвіжа". Відэазамалёўка.
13.10 Вока. Пра рэкламу і не толькі...
13.30 Вяршыня свету. Тэлевіктарына.
13.55 Зроблена ў Беларусі. "Дажынкі-98".
14.25 Тэлеспорт.
15.00 Навіны.
15.15 Запрашаем на вячоркі. "Дажынкі" на Любаншчыне.
15.40 "Між мінулым і будучым". Да 75-годдзя з дня нараджэння ганаровага прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук акадэміка М.А.Барысевіча.
16.05 "Героі жніва-98". Тэленарыс.
16.30 "Дажынкі-98". Кірмаш.
17.00 "Дажынкі-98". Гала-канцэрт артыстаў беларускай эстрады.
19.00 "Прэм"ера". Творчае аб"яднанне "Тэлефільм" прадстаўляе: дакументальны фільм "Наша марка".
19.15 Ток-шоу"Гэта мая работа". "Дажынкі-98".
19.40 "З дакладных крыніц".
20.05 Ток-шоу "Карамболь" з удзелам Канстанціна Кінчава.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Прэм"ера мастацкага фільма Беларускага тэлебачання "Маё дзела - цялячае" (паводле апавяданняў К.Чорнага).
23.20 Беларускі хіт-парад. Вынікі тыдня.
23.35 Трэці тайм.
23.55 Відзьма-невідзьма.
0.55 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. "Днепр-Трансмаш" (Магілёў) - "Славія" (Мазырь). 2-гі тайм. Перадача з Магілёва.

**ГРТ**

7.00 Маст. фільм "Галава Гаргоны".
8.45 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
9.00, 17.00 Навіны.
9.10 Дамашняя бібліятэка.
9.30 "Ранішняя пошта" з Юрыем Нікалаевым.
10.10 "Каламбур". Гумарыстычна часопіс.
10.45 Смак.
11.05 Вяртанне Трацякоўкі. Гісторыя аднаго шэдэўра.
11.25 Леанід Коган. "Імгненні жыцця і славы..."
12.15 Мікалай Рыбнікаў у фільме "Ім пакараецца неба".
14.20 Леў Нікалаеў у праграме "Цывілізацыя".
14.50 У свеце жывёл.
15.30 "Зачараваны хлопчык". Мультфільм.
16.15 Як гэта было.
17.25 Джэнтльмен-шоу.
17.55 Надвор'е.
18.05 Камедыя "Містэр Піткін у тыла ворага".
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Фільм года "Дастукацца да нябёсаў".
22.25 "Задорынкі" Міхаіла Задорнава.
23.25 Прыгодніцкі фільм "Забыць Рангун".
1.15 Праграма перадач.

**Расія**

7.00 Раніца селяніна.
7.30 Служу Айчыне!
8.00 "Дзюймовачка". Мультфільм.
8.30 "Шэры Воўк энд Чырвоная Шапачка". Мультфільм.
9.00 Добрай раніцы, краіна.
9.35 Каханне з першага погляду.
10.05 "Вальс-бастон". Канцэрт Аляксандра Разенбаўма.
11.00 Подыум д'арт.
11.30 Хатнія клопаты Наталлі Варлей.
12.00 Серыял "Тыдзень у Санта-Барбары".
13.00, 19.00 Весткі.
13.30 Маст, фільм "Дзіўныя людзі".
15.10 Серыял "Закон і парадак".
16.00 Фільм-прытча "Урга. Тэрыторыя кахання".
18.00 Мая сям'я.
19.30 Добры вечар з Вугольнікавым.
20.15 Крымінальная драма "Пленнікі нябёсаў" (ЗША).
22.30 Свята "МК" у Лужніках.
23.25 Фільм "Экзотыка" (Канада).
1.10 Прагноз надвор'я.

**Культура**

9.05 Надвор'е.
9.10 "Чытаючы Біблію". Стары Запавет.
9.20 "Луні і асееды". Дак. фільм.
9.50 Маст. фільм "Пётр Мартынавіч і гады вялікага жыцця".
11.25 Дамавы.
12.15 "Маё жыццё. Стэфанія Станюта". Частка 1-я.
12.45 Артадокс.
13.00, 21.00 Навіны культуры.
13.15 "На вершы Ганны Ахматавай". Рамансы.
13.30 Ток-шоу. "Наўздагад".
14.00 Спектакль "Мегрэ ў міністра". 1-я серыя.
15.10 Чароўны чамадан.
15.25 "Паэт у Расіі больш, чым паэт".
15.50 Музычная гісторыя.
16.30 "Асабістая справа".
17.00 Навіны.
17.05 "2003".
17.10 Мемуары з "Фитилем".
17.35 "Асеннія партрэты".
18.00 "Дворжак". Дак. фільм. Частка 1-я.
18.55 "Тайны партрэтнага фае". Перадача 1-я.
19.25 Цуд-казка.
19.40 Гала-канцэрт. "Брава, маэстра. Брава, Лайма!"
21.25 "Вакзал мары".
22.00 "Спорт, спорт, спорт". Мастацка-публіцыстычны фільм.

**НТБ**

7.00 Маст. фільм "Шосты".
8.25 Мультфільм "Хітрая варона".
8.35 Мультсерыял "Ніндзя-чарапашкі".
9.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
9.10 Крымінал. "Шчырае прызнанне".
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Маст. фільм "Легенда аб згубленым горадзе". 1-я і 2-я серыі (Аўстралія).
11.00 "Рэйтынг прэсы" з Аляксандрам Герасімавым.
11.30 Вяселле.
12.00 Хакей. Чэмпіянат Расіі. "Спартак"—"Молат-Прыкам'е".
14.30 "Рускі век". Ігар Гарбачоў у гутарцы з Андрэем Каравулавым.
15.15 Серыял "Паліцэйская акадэмія".
16.10 Калі ласка!
17.00 Дог-шоу "Я і мой сабака".
17.30 Герой дня без гальштука.
18.30 "Усяго" з Віктарам Шандаровічам.
18.45 Камедыя "Рэванш" (Францыя).
20.45 Лялькі.
21.40 Фільм жахаў "Кашмар на вуліцы Вязаў". Фільм 3-і (ЗША).
23.20 "Пра гэта". Ток-шоу.
0.00 Камедыя "Азадачаны кароль" (Іспанія—Францыя).

**8-ы канал**

15.00 Джойс Майер "Жыццё ў слове".
15.30 Музычная праграма.
16.00 Маст. фільм "Гонкі па вертыкалі".
18.15 Мультфільм "Прывіды ў даспехах".
19.30 Служба 01.
20.00 Серыял "Слізготныя".
21.30 Вечарніца.
21.45 Крымінальная драма "Палоннікі нябёсаў".

## Нядзеля, 20 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

7.00 Добрай раніцы, Беларусь!
8.00 Навіны.
8.15 Забаўляльная праграма "Магчыма, яны звар"яцелі" (Вялікабрытанія - Аўстралія).
9.15 "Усё пра ўсё". Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей.
9.40 "Я малюю". IV Міжнародны дзіцячы пленэр, прысвечаны М.Чурлёнісу.
10.10 Тураб"ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
10.35 "Усё нармальна, мама!" Забаўляльная праграма.
11.10 Арсенал. Праграма аб арміі.
11.35 Беларускі дом. "Дажынкі-98". Мастацка-публіцыстычная праграма.
12.05 "Насустрач". Знаёмства тэатра "Лятуценнікі" з эстраднай студыяй "Ля-ля-фанькі" і юнай флейтысткай Дашай Бельцюковай.
12.45 "Казка пра згублены час". Мастацкі фільм ("Масфільм").
14.00 "Нясвіж". Відэазамалёўка ("Белвідэацэнтр").
14.05 Вяскоўцы. "Дажынкі-98". Спецвыпуск.
14.30 Радавод. "Дажынкі-98".
15.00 Навіны.
15.15 Алімп.
15.30 Міжнароднае свята паэзіі ў Навагрудку, прысвечанае 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча.
16.15 Зорная ростань. Тэлевізійны конкурс маладых артыстаў эстрады. Перадача 2-я.
16.55 В.Дваржэцкі, Г.Віцын, А.Даль у мастацкім фільме "Зямля Саннікава" ("Масфільм").
18.25 Тэленавігатар.
18.45 "Запрашэнне". Нядзельны вечар з Галінай Хаймінавай.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 "Дажынкі-98". Відэафільм.
21.50 "Восеньскія жарты ад "Хрыстафора". Святочная праграма, прысвечаная "Дажынкам-98".
22.05 "Тэлебарометр". Прагноз надвор"я.
22.20 Стадыён.
22.45 "Сінема". Іў Мантан у мастацкім фільме "1Р5: востраў мастадонтаў" (Францыя).
0.45 Прэм"ера песні.
1.00 "У джазе толькі дзяўчаты".
1.30 "Бархатны сезон". Музычна-забаўляльная праграма.

**ГРТ**

7.00 Маст. фільм "Загадана ўзяць жывым".
8.30 "Дысней-клуб": "Качыныя гісторыі".
9.00, 14.00, 23.40 Навіны.
9.10 "Бесталковыя нататкі".
9.30 Пакуль усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 Армейскі магазін.
11.30 Грай, гармонік любы!
12.00 Сялянскія ведамасці.
12.30 Серыял "Падводная адысея каманды Кусто".
13.20 Смехапанарама.
13.55 Праграма перадач.
14.20 Клуб падарожнікаў.
15.05 Футбольны агляд.
15.40 "Новыя прыгоды Віні-Пуха", "Чып і Дэйл спяшаюцца на дапамогу".
16.35 "Кола гісторыі".
17.20 Надвор'е.
17.25 КВЗ-асарці.
17.55 "Ералаш".
18.05 "Залатая серыя". "Асенні марафон".
19.55 Кінаафіша.
20.00 Час.
20.35 Брус Уіліс у баевіку "Моцны арэшак".
23.10 Галіна Волчак у праграме "Абажур".
23.55 Камедыя "Дурань упарціцца".
1.40 Праграма перадач.

**Расія**

7.00 "Папялушка". Мультфільм.
7.20 Фільм для дзяцей "Арабела — дачка пірата".
8.30 Пошта РТР.
9.00 Добрай раніцы, краіна!
9.30 Сам сабе рэжысёр.
10.00 "Аншлаг" прадстаўляе.
10.30 "Гарадок".
11.00 Рускае лато.
11.45 Свет кніг.
12.00 Серыял "Тыдзень у Санта-Барбары".
13.00 Весткі.
13.30 Федэрацыя.
14.15 Парламенцкая гадзіна.
15.10 Серыял "Закон і парадак".
16.00 Дыялогі пра жывёл.
16.55 Прагноз надвор'я.
17.00 Футбол. "Спартак" (Масква)—"Ростсельмаш" (Растоў-на-Доне).
19.00 Люстэрка.
19.55 Маст. фільм "Ты ў мяне адна".
21.40 Трылер "Страшная гісторыя" (ЗША).
23.15 "Калізей".
0.10 Прагноз надвор'я.

**Культура**

9.00 Праграма перадач.
9.05 Надвор'е.
9.10 "Чытаючы Біблію".
9.20 Кансіліум.
9.45 Мультфільм.
11.05 "Гавайскі рай". Дак. фільм. Частка 3-я.
11.35 Тэлесуфлёр.
11.45 Інтэрмецца ў стылі аперэты.
12.30 "Маё жыццё. Стэфанія Станюта". Частка 2-я.
13.00, 21.00 Навіны культуры.
13.15 Кніжная скарбніца.
13.30 Дак. фільм "Нікс і Кукры".
14.10 Спектакль "Мегрэ ў міністра". 2-я серыя.
15.15 Фотапартрэт.
15.30 "Ціхі вечар".
16.05 Становішча рэчаў.
17.00 Навіны.
17.05 "2003".
17.10 "Танга ў Крамлі".
17.35 "Дзіцячы свет".
18.00 "Дворжак". Дак. фільм. Частка 2-я.
18.55 "Са столі".
19.20 Мультфільм.
19.30 Цуд-казка.
19.45 Блеф-клуб.
20.20 "Зоркі белых начэй".
21.20 Праграма перадач.
21.30 Маст. фільм "Зацьменне".

**НТБ**

7.00 Камедыя "Дзяўчына з характарам".
8.25 Мультфільм.
8.35 Мультсерыял "Ніндзя-чарапашкі".
9.00, 15.00 Сёння.
9.15 Калі ласка!
10.00 Маст. фільм "Легенда аб згубленым горадзе". 3-я і 4-я серыі (Аўстралія).
10.45 Ад "Вінта"!
11.00 Вялікія грошы.
11.30 "Вуснамі дзіцяці".
12.00 Маст. фільм "Выкраданне дзяўчат" (Румынія).
13.35 Суд ідзе.
14.30 Свая гульня.
15.15 Тэлегульня "Ключы ад форта Байяр" (Францыя).
17.00 Вынікі. Уступ.
17.40 "Джэймс Бонд — агент 007". Фільм 3-і.
20.00 Вынікі.
21.00 Містычны фільм "Омэн-III: апошняе супрацьстаянне" (ЗША).
23.05 Вынікі. Начная размова.
23.35 Вынікі. Спорт.
0.05 "Футбольны клуб прадстаўляе чэмпіянат Расіі". 25-ы тур.

**8-ы канал**

15.00 Праграма з Рыкам Рэнерам.
15.30 Музычная праграма.
16.00 Фантастыка "Зорныя войны".
18.15 Мультфільм "Балу".
19.15 Тэлеканал "Альфа".
19.45 Залатое кальцо.
20.00 Серыял "Слізготныя".
21.30 Вечарніца.
21.45 Навіны "К-відэа".
22.15 Нядзельны фільм.

***Гётэ-інстытут у Мінску — адна з самых актыўных і творчых замежных грамадскіх арганізацый, трывала любімая беларускай інтэлігенцыяй. За 5-годдзе існавання Гётэ-інстытутам здзейснены розныя культурныя праекты ў галіне тэатра, кіно, музыкі, выставачнай дзейнасці. Мноства беларусаў змаглі пазнаёміцца з Германіяй, яе культурай, побытам, вывучыць нямецкую мову. Натхняльніцай, ініцыятарам, душою Гётэ-інстытута ўсе гэтыя гады была Вера Багальянц. На вялікі жаль, 6 верасня гэтая разумная, абаяльная і валявая жанчына ладзіла развітальны вечар з нагоды свайго ад'езду. Кветкі, падарункі, цёплыя словы — сапраўды Вера Багальянц везла з сабою любоў і сяброўства многіх і многіх людзей. Прэс-канферэнцыя адбылася напрыканцы вечара ў зале Міжнароднага адукацыйнага цэнтра, што на Паўднёвым Захадзе. На развітанне былы дырэктар Гётэ-інстытута сказала журналістам наступнае:***



## Вера БАГАЛЬЯНЦ: “Я ЎСКЛАДАЮ ВЯЛІКІЯ НАДЗЕІ НА БУДУЧЫНЮ НАШЫХ УЗАЕМААДНОСІН”

— Нейкую часцінку сябе я пакідаю тут, на Беларусі. І многае бяру з сабою. Не магу ўявіць, што нашае супрацоўніцтва перарвецца. Я ад'язджаю з сумам, але ведаю, што справа будзе працягвацца. Мне цяжка развітвацца са справай, кідаць на паўдарозе пачатыя праекты, але я ўжо аднойчы працягвала тэрмін свайго знаходжання на Беларусі, і, спадзяюся, мяне зменіць новы дырэктар з большай энергіяй. У мяне яшчэ будзе час у Гётэбергу, куды я цяпер ад'язджаю, сфармуляваць свае ўражанні і назіранні пра беларускую зямлю, яе людзей і культуру.

Самымі важнымі і цікавымі праграмамі я лічу дыялагічныя праекты, у якіх удзельнічаюць беларускі і нямецкі бакі. Дзе мы змаглі пераадолець недахоп ведаў адзін пра аднаго. Дзе мы атрымалі новы мастацкі прадукт у сферы тэатра, кіно, мастацкай дзейнасці. Гэта, прыкладам, выстава “Тэксты”, кінафільм “Аазіс”, тэатральныя праекты, чарнобыльскія праграмы.

У тэатры мы пачалі з эксперыментальных сцэнічных чытанняў сучасных нямецкіх п'ес беларускімі артыстамі. Яны адбыліся ў Мінску, Віцебску і Гродне. Гэтыя эксперыменты і ўзрастаючая цікаўнасць адзін да аднаго вылецца ў лістападаўскі фестываль сучаснай нямецкай п'есы. Я думаю, падобныя праекты, з перспектывай развіцця, маюць будучыню. Гэта не проста “мерапрыемствы”. Сцэнічныя чытанні можна і далей працягваць. Падобныя эксперыменты ладзяцца і на Берлінскім тэатральным фестывалі.

Я ўдзячна ўсім, хто браў удзел у стварэнні фільма “Аазіс” — аднаго з самых удалых нашых праектаў. У нас ёсць задумы сумесных беларуска-нямецкіх здымак фільма аб усходніх рабочых у Германіі.



... Канешне, дзейнасць Гётэ-інстытута ў Мінску адрозніваецца ад працы іншых падобных структур, скажам, у краінах былога Савецкага Саюза. Пачынаючы працу, я хутка сфармулявала канцэпцыю: культурныя праекты павінны быць адасоблены ад эканомікі і палітыкі. Культурныя праекты не павінны скіроўвацца на атрыманне прыбытку. А палітыкі могуць дапамагаць, але не павінны перашкаджаць. Культура сама па сабе ёсць багацце. За гэтыя пяць гадоў было зламана мноства стэрэатыпаў ўспрыняцця адзін аднаго. Я, напрыклад, была спачатку здзіўлена, што мне цяжка ўступіць у дыялог з людзьмі па тэме Другой сусветнай вайны. Хаця ў 1993 годзе людзі ўжо былі ўдзячныя Германіі за дапамогу ў Чарнобыльскай катастрофе. І толькі блізкія сябры маглі гаварыць пра вайну. Мне здаецца, тут трэба весці работу на прымірэнне, наколькі яна ўпісваецца ў культурную праграму, падобна тым намаганням, што мелі месца ў 50-я гады паміж Францыяй і Германіяй. Мы маем сёння адзін з такіх праектаў — да 50-годдзя заканчэння вайны, які пракладае новыя шляхі разумення паміж людзьмі.

Я ўпэўнена, што не колькасць, а якасць вызначаюць працу. І адна праграма павінна адштурхоўвацца ад другой і мець паглыблены працяг. У адносінах якасці і навізны нашы некаторыя сумесныя праекты (выстава “Рэха маўчання”, тэатральныя і чарнобыльскія праграмы) карыстаюцца павагай у Германіі і могуць паслужыць прыкладам для іншых арганізацый.

... Кожны вопыт, у рэшце рэшт, — добры вопыт. Канешне, мне ў апошнія гады стала значна цяжэй працаваць. Дзяржавы ў стадыі пералому іншы раз не ўмеюць заключаць дамовы аб арэндзе. Шмат сіл і энергіі пайшло на пытанні размяшчэння і статуса Гётэ-інстытута ў Мінску. Спадзяюся, новаму дырэктару пашанцуе зрабіць новыя крокі ў дадзеных праблемах.

Да 2000 года ў нас запланавана каля дзесяці праектаў. Па тэме вайны, у галіне тэатра, сучаснай музыкі. І гэта будзе мець працяг. У сучасным мастацтве асабліва шмат непаразумення. Я жадаю поспехаў дзіцячаму фэсту, V Міжнароднаму фестывалю жаночага кіно. Я ўскладаю вялікія надзеі на будучыню нашых узаемаадносін.

**Занатавала Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## ЦЭЛАСНЫ, БАЧНЫ, СТРАСНЫ...



Леаніду Марчанку ішоў пяцьдзесят пяты год. 55 гадоў для чужых вачэй — шмат, 55 гадоў для самога чалавека — кароткае імгненне.

Здаецца, яшчэ нядаўна ён штодня падымаўся ў сваю майстэрню, наведваў мастакоўскія вернісажы, хадзіў з мальбертам і альбомам па нарачанскіх палях, пісаў акварэлі ў Даніі, складаў новыя творчыя планы...

Здаецца, яшчэ нядаўна... Але што паробіш? Два гады таму, 11 верасня 1996 года, Леанід пайшоў ад нас. Але лёс кожнага таленавітага мастака такі, што пасля яго застаюцца жыць ягоныя творы...

Надзвычай шчыры і вельмі надзейны чалавек, ён умеў быць адданым, як вельмі нямногія, і творчасці, і сябрам, і жанчыне, якую кахаў. Менавіта дзякуючы ёй, Ніне Паўлаўне Марчанка, пасля смерці майстра ўдзячныя гледачы здолелі ў поўнай меры ацаніць талент гэтага неардынарнага мастака, аднаго з лепшых афартыстаў Беларусі, здолелі ўбачыць ягоныя памятныя выставы ў Мінску і Магілёве.

І вось зусім нядаўна, 2 верасня, у выставачнай зале Бабруйска, на радзіме Леаніда, адкрылася яшчэ адна экспазіцыя твораў мастака — афорты, малюнкі, літаграфіі, акварэлі. Усе яны — пра час і пра сябе. Нібыта аўтапартрэт творцы — цэласны, бачны, ачышчаны ад усялякіх дробязей і выпадковых атрыбутаў.

Леанід Марчанка ўсё сваё творчае жыццё шукаў сваю, толькі яму ўласцівую мову думак, рытмаў, плям, фарбаў. І бліскуча знайшоў яе. Асабліва ў тэхніцы афорта — светланосная, далікатная, серабрыстая. Ягоная серыя, прысвечаная прыродзе Беларусі, якая сталася “лебядзінай песняй” аўтара, — гэта не проста высакакласныя аркушы. Гэта — эмацыйныя развагі пра жыццё, пра месца чалавека ў прыродзе, пра чалавечую дабрыню. Гэта страсныя пошукі гармоніі і дасканаласці ў нашым няўтульным свеце.

На адкрыцці выставы з добрымі словамі пра мастака і сябра выступілі народны мастак Беларусі, акадэмік Георгій Паплаўскі, народны артыст СССР і Беларусі Ігар Лучанок, намеснік старшыні Беларускага Саюза мастакоў Святлана Гарбунова, блізкі сябар Леаніда графік Мікалай Рыжыкаў, старшыня Бабруйскага гарадскога савета Міхаіл Кавалевіч. Выстава працягнецца да канца верасня.

**Б.К.**



*Л.Марчанка. “Асенні букет”. Папера, акварэль.*

## ГАЛЕРЭЙНЫЯ

Вочы разбягаюцца ад сотняў шыльдачак. Такое ўражанне, што ўвесь першы паверх у Вільні аддалі ва ўладу творчых праектаў. Тут вельмі многа бараў, кавярняў, крамаў, салонаў і галерэяў. Пры жаданні іх не абысці і за месяц. У салонах і галерэях тутэйшыя мастакі прадстаўленыя больш не алейнымі, а графічнымі і акварэльнымі творамі. Прынамсі, гэтак мне падалося. Салоннага акадэмізму назіраецца замала, амаль увесь ён “перакінуўся” на вуліцу і ператварыўся ў звычайны кіч. Разняволенасць і пошук у віленскім асяродку — самая нармальная будзённая справа. Што цікава, самі віленцы ўжо блытаюцца ў салонах і галерэях, бо мастацкія прытулкі нараджаюцца як пасля добрага рыбінага нерасту. Так, па словах маладой мастачкі Ганны Падбярэзскай, неўзабаве адчыняцца яшчэ некалькі новых галерэяў сучаснага мастацтва. Таму я не бяруся нават спрабаваць распавесці пра ўсе цікавыя экспазіцыі, што ёсць цяпер у Вільні. Гэта ўжо праца для даследчыкаў. Але спынюся на самым арыгінальным праекце, створаным нарвежскімі мастакамі ў Цэнтры сучаснага мастацтва, бо ён, безумоўна, з разраду экзотыкі. Як паведамілі літоўскія СМІ, нават каралева Нарвегіі лічыць мэтазгодным наведаць дадзеную экспазіцыю ў Літве.

Складаецца ўражанне, што ў Цэнтры сучаснага мастацтва ўсе дзіцячыя мары — пірожныя і аблачынкі. Па сценах льецца шакалад, а на вокнах шкло пакрываецца цукеркамі. Праўду кажуць у народзе, што ўсё геніяльнае проста. Так. Менавіта. Ганс Гамід Расмусэн зрабіў даволі простую канструкцыю. Ён — першы заваёўнік гэтага полюса. З металічных хмарак ідзе сапраўдны мядовы дождж! Наведнікі, што заходзяць у гэтую фантастычную залу, спачатку нічога не разумеюць, толькі падазрона нюхаюць салодкае паветра і глядзяць на чыстую празрыстую падлогу, да якой “чамусьці” прыліпаюць іх боты. Але зазвычай гледачы рэзка “прачынаюцца” ад грукату апарата, які ўключаецца кожныя тры хвіліны. Вось тады зверху і пачынае капаць мёд. Спачатку павольна-павольна... і раптам — моцны лівень. Нейкую інструкцыю наконт гэтага дзейства пры жаданні можна атрымаць ад мясцовай вахцёркі. Па яе словах, мёд падаграецца і ўвесь час цыркулюе па зададзенай схеме пры дапамозе насосаў — свайго роду нябеснага пярсцёнка. Спадар Расмусэн прапанаваў наведніку, у літаральным сэнсе, даць нырца ў мёд.

# ПРЫГОЖАЯ ЖАНЧЫНА — МАЁР МІЛІЦЫІ

***Марына Дзмітрыеўна Няхайчык, начальнік следчага аддзела Савецкага РАУС, маёр міліцыі. Ёй трыццаць тры гады, яна прывабная, ахвотна смяецца і "нечакана" сур'ёзна і лагічна вядзе гутарку. "Адвечная" выдатніца — залаты медаль у школе, "чырвоны" дыплом юрыдычнага факультэта універсітэта, даволі рэдкае для жанчыны крэсла міліцэйскага начальніка, павага падначаленых і кіраўніцтва. Чаму ж усё-такі іншы раз бачная "стомленасць" яе душы? Што ж гэта за з'ява — жанчына ў пагонах міліцэйскага афіцэра? А можа, гэтая справа — не для князёўны?***

***Яна пагадзілася на інтэрв'ю без асаблівай радасці. Я папытаўся, колькі ў мяне будзе часу. "Колькі спатрэбіцца", —адказала яна.***

***Перад нашай размовай Марына Дзмітрыеўна папярэдзіла: усё, што яна скажа, — гэта яе асабістае меркаванне, гэта яе ўяўленне пра жыццё, службу і "спалучэнне" гэтай службы з жыццём толькі адной жанчыны — Марыны Няхайчык. А я адказаў ёй, што цалкам задаволюся гэтым, бо мяне больш цікавіць не міліцыя і маёр Няхайчык з даволі цяжкімі пагонамі на крохкіх жаночых плячах, а Марына Няхайчык — жанчына. Міліцыя — потым. Так і дамовіліся.***



**— Колькі жанчын у краіне кіруе "раённым" следствам?**

— Я думаю, чалавек пятнаццаць. Гэта, напэўна, працэнтаў дзесяць ад агульнай колькасці супрацоўніц РАУС Беларусі.

**— Вы самая маладая з іх?**

— У Мінску — так.

**— Колькі ў вас падначаленых?**

— Дваццаць восем і трэцяя частка з іх — жанчыны.

**— Не ведаў... Думаў, што ў падраздзяленнях, якія працуюць з падлеткамі, шмат жанчын, а тут — следства...**

— Тут, на маю думку, жанчыне лягчэй — усё ж большая частка працы адбываецца ў кабінеце. А з цяперашнімі непаўналетнімі... За імі бегаць трэба, шукаць. І яшчэ невядома, дазволю сабе жарт, хто каго перавыхавае. Я лічу, што там праца цяжэйшая.

**— Я хачу зразумець, Марына Дзмітрыеўна, як вы трапілі ў міліцыю? Абралі? Здзейснілі мару? Вымушана? Можа, пачнем з дзяцінства, з бацькоў?**

— Бацька — інжынер, маці — працавала ўрачом у шпіталі МУС...

**— Вось!**

— Так, было шмат знаёмых з міліцыі. А потым... Ёсць у мяне асаблівасць у характары: калі бачу штосьці "немагчымае", значыць, мне туды абавязкова трэба. Юрыдычны факультэт лічыўся прэстыжным, туды немагчыма было паступіць! Калі так, значыць, паступлю і — паступіла. Пра міліцыю не думала. Не лічыла гэта "сваім". У мяне, калі можна так сказаць, "абвінаваўчы" ўхіл. Адвакатура не прываблівала, бо там для таго, каб зарабіць, іншы раз даводзіцца "дамаўляцца" са сваім уласным сумленнем. А я хацела змагацца з хібамі і заганамі.

**— Чым вы растлумачваеце гэтую рысу свайго характару, гэты "пракурорскі" ўхіл?**

— Можа, славалюбства? Але, магчыма, абвостранае пачуццё справядлівасці. Я рана страціла бацьку, мужчынскую абарону... Жыла не вельмі, так бы мовіць, гладка. А хацелася, каб заўсёды і паўсюль было "па праўдзе". Жыццё, на жаль, такім не бывае. Вось, напэўна, тут і знаходзіцца пачатак жадання працаваць у міліцыі, але яно вызначылася ўжо напрыканцы вучобы ва універсітэце. Я не назвала б гэта марай.

**— І куды вы былі размеркаваны пасля універсітэта?**

— У Смалявіцкую міліцыю.

**— Гэта ж трэба! З "чырвоным" дыпломам!**

— А я ў лісце аказалася семдзесят восьмай. Справа ў тым, што амаль усе тыя, хто да размеркавання паспелі ўзяць шлюб, сталі першымі, а я, хоць і Леў паводле гараскопа, была дзяўчынкай сціплай і вельмі правільнай. Мужа не набыла, а ў Смалявічах магчымасць выйсці замуж аказалася вельмі праблематычнай... З розных прычын.

**— А ці можна было адмовіцца ад міліцыі?**

— Згодна з законам — не: я абавязана была "адпрацаваць" адукацыю. А потым высветлілася, што і тут можна прыносіць карысць. Так і засталася.

**— Пачыналі лейтэнантам?**

— Так.

**— Колькі гадоў ужо адслужылі "трудовому народу"?**

— Адзінаццаць.

**— Калі параўнаць прэстыж міліцыі на пачатку вашай працы, і сёння — павялічыўся ён альбо паменшыўся?**

— На мой погляд, апошняе.

**— Чаму?**

— Лепей на прыкладзе. Калі я, як следчы, выклікала чалавека, дык ён вельмі рэдка не прыходзіў ці не прыязджаў, хаця ў вёсках часта не было грошай на білет. Але — абавязкова праз некага паведамляў, чаму не здолеў прыехаць і калі з'явіцца. Адчувалася павага...

**— А можа, палахлівасць?**

— ... можа, і палахлівасць, але дзяржава ў асобе міліцыі была дзяржавай. І закон не толькі быў напісаны і гучаў — ён сапраўды існаваў. Сёння ж пэўная частка насельніцтва дазваляе сабе вельмі "лёгка" ставіцца да праваахоўнай сістэмы. Для іх закон не пісаны. Бязмежжа — нядобрае, але дакладнае слова.

**— Ці сутыкаліся вы з буйнымі крымінальнымі "асобамі"?**

— Не. Гэта не наша сфера, імі займаецца Камітэт па арганізаванай злачыннасці, у іхняй структуры ёсць свой вышук. Наш аддзел аддаў туды двух сваіх супрацоўнікаў. А ў нас справы не такія вялікія.

**— На які час следчы сваёй уладай можа мяне затрымаць?**

— На 72 гадзіны.

**— А потым?**

— Альбо прад'явіць абвінавачванне, альбо адпусціць.

**— Што такое следства ў сістэме міліцыі? Некалькі слоў для агульнай адукацыі нашых чытачоў.**

— На кожнае выяўленае здарэнне выязджае аператыўна-следчая група, якую ўзначальвае следчы. У яе ўваходзяць супрацоўнік крымінальнага вышуку, калі гэта крадзеж з прадпрыемства — работнік аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, эксперт-крыміналіст і, пры неабходнасці, кінолаг з сабакам. Следчы аглядае месца здарэння, фіксуе сляды, вызначае сведкаў, дапытвае пацярпелых, складае пратакол... Калі злачынца затрыманы, следчы дапытвае яго, даказвае віну і накіроўвае справу ў суд. А калі злачынца ўцёк, даручае сышчыкам шукаць злачынцу паводле сумесна ўзгодненага плана. Гэты план аб'ядноўвае дзеянні многіх службаў.

**— Як я зразумеў, стратэгію крымінальнай справы выпрацоўвае следчы?**

— Можна так сфармуляваць.

**— А калі яна няправільная?**

— Тады ён і будзе за гэта адказваць...

**— Якая справа клапоціць вас сёння больш за іншыя?**

— Не справа, а тэндэнцыя, супраць якой адна міліцыя не ў стане змагацца — гэта павінна зрабіцца клопатам усяго грамадства і дзяржавы. Калі людзі не будуць годна — маральна і матэрыяльна — жыць, мы будзем з "гэтым" сустракацца заўсёды — у большай ці меншай ступені.

**— З чым — з "гэтым"?**

— З забойствамі і цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі ў мірны час — у побыце, у п'яным стане, падчас гулянкі, што ператвараецца ў смяротную бойку, з-за помсты, "трох рублёў" і проста так, без прычын. Ці то муж — жонку, ці то сын — маці, ці то сужыцель — сужыцельку... Вось гэтага ў апошні час паболела.

**— Прычына?**

— У чалавеку застаецца ўсё меней чалавечага. Калі ён заняты біялогіяй: пошукамі харчавання, вопраткі, калі ён шукае ў алкаголі і наркотыках "лёгкага" адыходу ад сённяшніх праблем — гэтым і сканчваецца. І, наколькі мне вядома, на Беларусі гэтага пакуль меней за іншыя краіны СНД.

**— Значыць, будзе болей?**

— Магчыма. А наконт цікавай справы... Зусім нядаўна мы ўзбудзілі справу пра фальшывую валюту. І смех, і грэх... Мужчына выклікаў "дзяўчынак" дадому. Адной яму было недастаткова — гуляць дык гуляць. Адгулялі. Ён пачаў разлічвацца, а "дзяўчынка" не ўпершыню долары ў руцэ трымае. Ах, мы сумленна "службу нясем", а ты нас падманваеш? Пайшлі, не падаўшы выгляду, і выклікалі міліцыю. Пры вобыску знайшлі 6 тысяч фальшывых долараў. Альбо іншая, "бяскроўная", але ўзорная справа: 17-гадовы юнак здзяйсняе кватэрны крадзеж, яго ловяць, але адпускаюць да суда пад падпіску аб нявыездзе. Той знікае, яго зноў ловяць, і тут высвятляецца, што падчас уцёкаў ён абрабаваў яшчэ адну кватэру. Вось вам узровень свядомасці і ступень патрабаванняў да жыцця. У 17 гадоў у яго ўжо няма будучыні: цалкам адсутнічае адказнасць нават перад сваім лёсам, не кажучы ўжо пра маму-тату...

**— А калі прыгадаць што-небудзь больш сур'ёзнае?**

— Можна, калі трэба, хаця і не вельмі хочацца. Гэта было пяць гадоў таму, я тады працавала следчым. Мы выехалі на здарэнне ў кватэры па вуліцы Багдановіча. Заможная кватэра, сучасны інтэр'ер, белая мэбля і... па ўсёй гэтай французскай мэблі і белых сценах — крывавыя адбіткі далоняў. Гэта гаспадар кватэры, яшчэ жывы, з трыма нажавымі ранамі, спрабаваў дабрацца да дзвярэй, да людзей... Пакуль злачынца забіваў гаспадара і гаспадыню ў спальні, госць, які начаваў у іншым пакоі, выкінуў у вакно тэлевізар, каб прыцягнуць увагу людзей. Забойца ўцёк. Шукалі яго два гады. За гэты час ён паспеў здзейсніць у Мінску каля 80 злачынстваў: рабаванні, крадзяжы, у тым ліку і з кватэры амерыканскага амбасадара. Аднойчы стрэліў у міліцыянера, але не трапіў. Працаваў прафесійна: пры дапамозе тэлефоннай праслухоўваючай прылады даведваўся пра тое, дзе, калі, хто, што прывёз, атрымаў, набыў, — і тады ўжо рыхтаваў "справу".

**— І як яго "бралі"?**

— Складана. Ён быў узброены гранатай. Сышчыкі ўзялі яго там, дзе ён менш за ўсё чакаў: на тралейбусным прыпынку.

**— Марына Дзмітрыеўна, колькі вам было гадоў, калі вы вялі гэтую справу?**

— Дваццаць восем.

**— Ці даводзілася вам страляць у злачынцу?**

— Не, дзякаваць Богу.

**— Вы добра страляеце?**

— Так. З трыццаці выбіваю 25 — 27. А ўвогуле жанчыны страляюць лепей за мужчын. Практыка вучэбных заняткаў гэта пацвердзіла.

**— Ці займаліся вы якім-небудзь спортам?**

— У юнацтве — лёгкай атлетыкай. Потым — аэробіка. Але нестае часу.

**— А на цырульню ёсць час?**

— Учора там была.

**— Што б я ўбачыў у вашым доме з вашых любімых рэчаў?**

— Кнігі і касметыку.

**— Што цяпер чытаеце?**

— На фоне гісторыі з Клінтанам зацікавіла кніга "Каханкі прэзідэнтаў". Цікава. Стасункі такіх людзей з жанчынамі... Мяркую, што іхнія дзеянні можна патлумачыць магутнай асабістай актыўнасцю. З гэтай прычыны, магчыма, яны і выходзяць за круг звычайных, прынятых у грамадстве адносін. Вось, да прыкладу, Кенэдзі адначасова меў пяць каханак... Мне гэта незразумела. Але ж людзі розныя.

**— З кім вы сябруеце?**

— З некаторымі з былых сакурсніц.

**— А школьныя сяброўкі?**

— Страчаны.

**— Раскажыце пра свой працоўны дзень.**

— З паловы дзевятай да дваццаці гадзін.

**— Чаму?**

— Таму што, зазвычай, даводзіцца працаваць болей за іншых. У следчага ў вытворчасці знаходзіцца больш за сто крымінальных спраў. А павінна быць 40 — 50.

**— Якое ж выйсце са становішча?**

— Трэба мяняць сістэму следства. Пра гэта даўно ідзе размова. Існуюць дробныя справы: злавілі злодзея на Камароўцы альбо здзейснена дробнае хуліганства, ці затрымалі "несуна" ля прахадной. Усё зразумела: ёсць злодзей, пацярпелы, сведкі. Адразу скласці пратакол і перадаць справу ў суд. Без следства. Праўда, трэба яшчэ наведаць інфармацыйны цэнтр, даведацца, ці прыцягваўся чалавек раней да адказнасці. І ўсё. Бо на такія, дробязныя справы марнуецца палова працоўнага часу. Іншы раз — два месяцы вышуку і тона паперы. Скраў на паўтара мільёна, а следства абыходзіцца ў пятнаццаць. Такая пратакольная форма працы вызваліла б і людзей, і сродкі.

**— Я пражыў даволі доўгае жыццё ў журналістыцы. Мы часта вымушаны ставіць "хірургічныя" пытанні, інакш чытач не пабачыць нашых герояў жывымі людзьмі. Цяпер я і пастаўлю перад вамі такое пытанне. Вы — разумная, маладая, прыгожая, зрабілі кар'еру, праз год-два — падпалкоўнік міліцыі... Дарэчы, не мною заўважана, што на зямлі няма нічога больш каштоўнага і прыгожага за жанчыну. Але вы не замужам, "незапатрабаваная". Як і чаму гэта здарылася? Няўжо мужчыны, якія жывуць вакол вас, сляпыя? Альбо вашае імя — Снежная каралева?**

— Ды не. І мужчыны не сляпыя, і я не са снегу. Усё значна прасцей. І "золата" ў школе, і "чырвоны" дыплом ва універсітэце самі не ўзнікаюць. Увесь вольны час аддадзены на тое, каб скарыць, паводле слоў класіка, пакручастыя вяршыні ведаў. А калі скарыла і азірнулася з надзеяй вырашыць свой жаночы лёс — усе месцы ўжо занятыя... Добрых хлопцаў звялі, а кепскія мне непатрэбныя.

**— А потым?**

— А што — потым? Пачынала ў Смалявічах, усіх супрацоўнікаў — 49. Мястэчка невялікае, выбар маленькі. Там не тое, што мужа знайсці, працаваць было цяжка — усе свае. Ды і вольнага часу на "432рознае глупства" не было... А калі ў Мінск перавялі...

**— Вось тут ужо вы разгарнуліся!**

— Калі б! Дваццаць пяць гадоў — не дзевятнаццаць. Ужо пасля першага "кахаю" распісвацца не пабяжыш. Ды і патрабаванні ў мяне, напэўна, занадта высокія. Але калі ўсё ж знойдзеш час і такую ж вар'ятку для кампаніі, як сама, каб пайсці разам на дыскатэку альбо ў клуб для тых, каму "за 30", дык там сустрэнеш тых, каго сама калісьці ў турму пасадзіла... Пасля працы ўжо ні на што не застаецца сіл, хочацца толькі адпачыць. Калі ўжо дасюль не займела сям'ю, дык цяпер гэта зрабіць цяжка. Кепска, але што ж зробіш?

**— А можа, аб'яву ў газету?**

— Не магу. У кожнага — свая мяжа. У мяне было некалькі знаёмых, якім я казала, дзе і кім працую... Вакол мяне адразу ўтваралася пустка. Мужныя рыцары бачылі не жанчыну, а следчага — і ўцякалі ад мяне.

**— Вы цяпер па-іншаму знаёміцеся?**

— Гэта гучна сказана, але калі здараецца, дык, каб не разагнаць кампанію, прадстаўляюся юрыстам.

**— Ну вось, нарэшце, вам пашанцавала і вы сустрэлі таго самага, яго. Якім ён павінен быць?**

— Разумным, прыгожым, матэрыяльна забяспечаным. Я не хачу быць галавой сям'і. Я хачу быць "галоўнай" жанчынай у ягоным жыцці. Як кожная жанчына, я нарадзілася, каб кахаць, каб мяне кахалі, каб нараджаць дзяцей і быць гаспадыняй. Міліцыянерам мяне зрабіла жыццё, а жанчынай — прырода. Я хацела б спалучыць і тое, і другое, але пакуль што не атрымліваецца...

**— Ці добра, што вы пачыналі службу з маленькага гарадка?**

— Не сказала б: следчаму трэба адразу вучыцца ў "кітоў", але ў Мінску і абласных цэнтрах не хацелі браць жанчын у следчыя органы. Міжвольнае "паслабленне" ўтварылася ў 1989 годзе, калі павялічылі штат і адначасова са службы пайшлі многія прафесіяналы.

**— Чаму?**

— Людзі ішлі на больш прыстойныя зарплаты, на працу без пагонаў. І цяпер, мяркую, сярод беларускіх следчых 20 працэнтаў складаюць жанчыны.

**— Прысутнасць жанчыны ў сістэме МУС: гэта станоўчы фактар альбо не?**

— Прысутнасць жанчыны ў кожнай сістэме — фактар станоўчы. Але ці станоўчы ён для самой жанчыны?

**— Ці добрая ў вас кватэра, ці маеце машыну, лецішча?**

— Ні кватэры, ні машыны, ні лецішча. Не на мой заробак іх набываць. На сябе грошай хапае — на харчаванне, на вопратку, на касметыку. На тэатр. Люблю яго і часта наведваю. Набываю абанементы. Эстрада? Не. Магчыма, і паглядзела б што-небудзь цікавае, але плаціць шалёныя грошы за квіток на канцэрт адной з сучасных "зорак" — не па кішэні.

**— Сауна? Масажыстка? Адпачынак на поўдні?**

— Не магу сабе дазволіць.

**— Ці паўплывала на вашыя жаночыя якасці тое, што вы ўжо адзінаццаць гадоў маеце справу са злачынцамі, з, мякка кажучы, нялепшымі праявамі чалавечага грамадства?**

— Безумоўна, і не ў лепшы бок. Прафесія робіць адбітак на характары — гэта агульнавядома. Я думаю, што жанчыне было б больш карысна клапаціцца пра дзяцей, мужа, моднае адзенне, чым выкрываць злачынцаў і рамантаваць дарогі. Ад гэтага і грамадству быў бы прыбытак. Можа, тады семнаццацігадовыя пісалі б вершы, а не гвалтавалі і рабавалі.

**Гутарыў Навум ЦЫПІС**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# "ЭФІРНАЯ ЗМЯЯ З ДОБРЫМ СЭРЦАМ"

***Паводле слоў вядомага дзі-джэя радыё "Бі-Эй" Таццяны Мартынавай, яе дзяцінства было пафарбавана ў трагічныя таны. З пяці гадоў ёй давялося наведваць розныя гурткі, дзе навучалі танцам, замежнай мове. Дасюль у яе памяці ўсплывае адна і тая ж карціна: прыгожы сонечны дзень, смарагдавая зяляніна на дрэвах, птушкі спяваюць. У пясочніцах — малыя з лапаткамі, а маленькая Танечка ў гэты цудоўны час з нотамі "цягнецца" ў музычную школу. Наогул, паводле прызнання Таццяны Мартынавай, яна была "нестандартным" дзіцем. Многія дзяўчынкі, як вядома, у гэты час любяць гуляць у лялькі. Улюбёным жа дзіцячым заняткам Тані было калекцыянаванне коркаў і затычак ад бутэлек. Якая ж Мартынава цяпер?***

***...Яна выклікае зусім розныя эмоцыі; часам меркаванні слухачоў пра яе гранічна супрацьлеглыя: ад "Які жах!" да "Цудоўна!". Несумненна адно: імідж "дзяўчахуліганкі", створаны абаяльнай музычнай вядучай, яркі і арыгінальны.***

**— Таццяна, як вы зрабіліся супрацоўніцай "Бі-Эй"?**

—У 1994 годзе, будучы студэнткай Беларускага інстытута культуры, я падпрацоўвала на "Аўтарадыё". Такім чынам, вопыт "радыёстасункаў" у мяне ўжо быў. Пазней, даведаўшыся пра існаванне "Бі-Эй", вырашыла перайсці на гэтую радыёстанцыю. Патэлефанавала і зарэкамендавала сябе "крутым" дзі-джэем.

**— Якім чынам?**

— Згодна з просьбай "экзаменатараў" распавяла папулярны ў той час анекдот. Ім спадабалася, і ў выніку я атрымала запрашэнне.

**— Некаторыя вядучыя, якія маюць немалы стаж працы, дасюль адчуваюць страх перад мікрафонам. А вы?**

— Я — не. Але, безумоўна, напачатку і ручкі, і ножкі трымцелі.

**— Ці маглі б вы назваць сваю працу любімай?**

— Так, хаця раней я марыла пра тэатр. Пасля заканчэння школы я паступала на аддзяленне рэжысуры Беларускага інстытута культуры, але неўзабаве кінула вучобу: праца патрабавала шмат часу. Нагодай для канчатковага разрыву з навучальнай установай стала фізкультура: я адмовілася здаваць залік па плаванні. Ненавіджу халодную ваду!

**— Што прыváблівае вас у прафесіі дзі-джэя?**

— Безумоўна, магчымасць зносін з людзьмі. Адзначу таксама, што мой улюбёны дэвіз — "Радзіму весяліць" — у эфіры проста неабходны.

**— ?!**

— Не люблю весці перадачы па заяўках. Многія тэксты віншаванняў амаль аднолькавыя. Уявіце сабе, як надакучвае чытаць у эфіры гадзінамі адно і тое ж.

**— Чаму "разваліўся" творчы саюз "Мартынава — Кузін"?**

— Праграмны дырэктар вырашыў, што мы лепш "глядзімся" паасобку.

**— Сярод музычных праграм "Бі-Эй" звяртае на сябе ўвагу ваша перадача "Рускі лес". Гэта — "неацэнны ўнёсак у развіццё культуры"?**




**— Якія складанасці, на вашу думку, хавае ў сабе прафесія музычнага вядучага?**

— Дзі-джэй павінен валодаць унікальным красамоўствам: не "выгаварыцца" за паўгода, за год. Можна параўнаць маю прафесію з працай грузчыка: і адзін, і другі "грузіць", хто ў прамым, а хто ў пераносным сэнсе гэтага слова.

**— Якое вашае творчае крэда?**

— Эфірная змяя з добрым сэрцам.

— Магчыма, так. Я лічу, што ў апошні час з'явіліся някепскія расійскія выканаўцы: Валерый Меладзе, "Іванушкі", "Чыж і Кампанія" і іншыя. Мяркую, што неўзабаве расійская эстрада будзе цаніцца ва ўсім свеце.

**— Праца адбірае ў вас, напэўна, шмат сіл. Як складваюцца вашы стасункі з побытам?**

— Увогуле някепска. Аднак не люблю гатаваць. Мне пашанцавала: муж выяўляе надзвычайныя здольнасці ў кулінарыі.

**— Ці можна вас назваць шчаслівым чалавекам?**

— Так, так і яшчэ раз так!!! У мяне цудоўны муж, прыгажуня-дачушка, у якой, дарэчы, ужо прарэзваюцца зубкі, ёсць любімая праца.

**— Што б вы хацелі пажадаць чытачам газеты?**

— Аптымізму, якім можна падсілкавацца ад радыё "Бі-Эй"!

**Дзіна МУСАТАЕВА**

# ЁН КІНУЎ ВЫКЛІК ВЕЧНАСЦІ

Колькі дзён таму з Парыжа вярнулася віцябчанка Вольга Жыхарава, выкладчыца педагагічнага універсітэта, якая працуе перакладчыцай у музеі Марка Шагала.

Мы сядзім у яе ўтульным пакойчыку, п'ем каву, слухаем Скрабіна, няспешна гутарым. Нас абедзвюх перапаўняюць леташнія ўспаміны, у кожнай — свае. Але ж Вользіны — парыжскія і таму, здаецца, больш значныя. Гасціла яна тры тыдні ў Францыі па запрашэнні мадам Эвет Какіль-Прынс (па мужу — Хэк, ён быў вядомым французскім мастаком). У свой час мадам Какіль-Прынс не толькі працавала над габеленамі, заказанымі Шагалам па яго творах, але і сябравала з ім. Майстар называў Эвет сваёй "духоўнай дачкой".

Вольга ўспамінае, як яна была запрошана мадам Эвет у замак Санта-Фелікс, што на поўдні Францыі. Уразіла дзяўчыну ўсё, але ж асабліва старажытны раяль з надзвычайным гучаннем. Вольга сыграла твор Рахманінава. Заўсёды стрыманая мадам Какіль-Прынс заўважыла, што лічыць рускую піяністычную школу адной з лепшых у свеце. Яе асноўныя вартасці, адзначыла мадам Эвет, — пачуццёвасць і страснасць.

Вольга паказвае мне кампакт-дыскі, што падарыла ёй Какіль-Прынс. Мы слухаем іх. Гэта музыка рускіх кампазітараў у выкананні Уладзіміра Сафраніцкага і француженкі Марлен Мальро. На кампакт-дыску апошняй — хвалюючыя радкі, прысвечаныя сяброўцы: "Ад Марлен да Эвет, без якой не адбылася б гэта музычная сустрэча". Дарэчы, муж піяністкі Андрэ Мальро (былы міністр культуры Францыі) у свой час заказаў роспіс Гранд Апера Марку Шагалу.

Успаміны мадам Эвет аб Майстры, перададзеныя ў размове Вольгай, маюць стрыманы, нешматслоўны характар. У гэтым няма нічога дзіўнага для тых, хто ведае пераклад з французскай мовы прозвішча Эвет — "Какіль" — ракавіна.

70-гадовая мадам Какіль-Прынс памятае кожную хвіліну кароткіх сустрэч з Маркам Шагалам. Зграбная бландзінка, Эвет заўсёды ездзіла да Майстра з Парыжа на хуткасным цягніку, але ўсё роўна траціла на паездку больш 6 гадзінаў. Білет да Сен-Поль дэ Вансу, што на поўдні Францыі, каштаваў дорага, і гэта не спрыяла частым сустрэчам. Сяброўскія рандэву педантычна займалі роўна адну гадзіну. Вава (Валянціна Бродская, жонка мастака) далікатна пакідала сяброў сам-насам на гэты час.

Апошняя іх сустрэча адбылася ў кастрычніку. Мадам Эвет застала Шагала на віле "Узгорак" у незвычайнай задумлівасці. На развітанне ён сказаў, што яму не страшна паміраць, бо ён цалкам рэалізаваў сябе. У сакавіку яго не стала. "Ён згас, як свечка, якую задзьмуў час", — сумна скончыла гутарку мадам Эвет Какіль-Прынс.

Вольга прывезла шмат цікавых каталогаў з творамі М.Шагала 1923 — 1936 гг. і буклет мадам Какіль-Прынс з рэдкімі фотаздымкамі. Я разглядаю адзін з іх. Эвет — у профіль, вельмі абаяльная, штосьці эмацыйна распавядае, жэстыкулюючы лёгкімі, нібыта крылы, рукамі. Імі створаны не адзін габелен па заказу Марка Шагала, які на фота побач. Ён глядзіць амаль што ў аб'ектыў камеры і гарэзліва ўсміхаецца. Нібыта кідае выклік вечнасці.

**Кансуэла ДРУЖКОВА**
*Віцебск*

# КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі:**

3.Той, хто піша літаратурныя творы. 6.У мінулым: род манокля ў аправе. 8. Горад-курорт у Латвіі — месца правядзення некалькіх фестываляў эстраднай песні. 9.Французскі жывапісец XIX—XX стст., аўтар карціны "Дзяўчына з веерам". 11. У мінулым: вялікі кашалёк або грошы, багацце. 15.Беларуская народная песня. 17.Каштоўны празрысты камень ярка-зялёнага колеру. 19. Дэкаратыўнае збудаванне ў выглядзе варот. 20. Горад і порт у Францыі. 21.Опера Дж.Вердзі. 22.Амерыканскі драматург, аўтар п'есы "Марскі пейзаж". 23.Спрыяльнае становішча. 26. У мінулым у Расійскай імперыі: радавы артылерыі. 29.Горны масіў у сярэдняй Грэцыі, дзе, паводле міфалагічных уяўленняў, жылі Апалон і музы. 31.Архітэктурны і дэкаратыўны стыль XVIII ст., які ўзнік у Францыі. 32.Рускі жывапісец XIX ст., аўтар карціны "З'яўленне Хрыста народу". 33."Мікалнор Іванавіч апрануў ватоўку і пачаў запраўляць..." (Даніленка). 34. Асоба, якая ставарае музыку.

**Па вертыкалі:**

1.Герой беларускіх казак, волат. 2.Партыя беларускай артысткі балета А.Карзянковай у "Пер Гюнце" на музыку Э.Грыга. 3. Горад у Беларусі, адзін з самых старажытных гарадоў усходніх славян. 4. Гарызантальны выступ, які завяршае сцяну будынка. 5. Месца, якое выклікае павагу, святое для кагонебудзь (пераноснае). 7. Чароўнасць, прывабнасць. 10. Музычны рэдактар Нацыянальнага радыё, аўтар папулярнай перадачы "Музыка на ўсе часы". 12."... Севастопаля" — карціна савецкага мастака А.Дайнекі. 13. Тое, што складае аснову, змест якога-небудзь мастацкага твора (пераноснае). 14. Народны артыст Беларусі, спявак, кампазітар, аўтар музыкі да песень "Александрына", "Завушніцы" і інш. 16. Азнаёмлены з тайнамі якога-небудь вучэння, секты і пад. 18. Рускі гравёр XVIII—XIX стст. Аўтар партрэта "Пушкін". 24.Радавы маёнтак Ж.Санд. 25. Аблямоўка, вузкая палоска, якая акаймоўвае штонебудзь. 27. Ахвотнік да чаго-небудзь — ... музыкі. 28.Герой рамана А.Дзюма. 29. Кніжна-часопіснае выдавецтва ў Мінску. 30. Беларускі баяніст, дырыжор, аўтар музычных апрацовак, з 1974 г. — музычны кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Беларусі.

**Крыжаванку склала Любоў ІОНАВА**

**Адказы на крыжаванку "Культура", змешчаную ў № 32.**

**Па гарызанталі:** 2. Мір. 4. Туляга. 8. Высоцкі. 13. Га. 15. Аут. 16. Дрот. 17. Іа. 19. Лорд. 20. "Вясна". 21. Вугал. 22. Дудук. 23. Кіно. 24. Атака. 25. Аўрора. 26. Таніч.

**Па вертыкалі:** 1. Паліглот. 6. Авагадра. 7. Рыторыка. 9. Саладуха. 12. Кантракт.

**Па зігзагу:** 2. "Маладняк". 3. "Русалка". 4. Токарава. 10. Ільгота. 11. Буфанада. 13. Гутковіч. 14. Анфілада.

**Па дузе:** 5. Лепарэла. 11. Букваед. 16. Дружба. 18. Рахленка.

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ,**
**Арсен ВАНІЦКІ,**
**Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар),
**Валерый ГЕДРОЙЦ,**
**Уладзімір ГІЛЕП,**
**Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ,**
**Аляксей ДУДАРАЎ,**
**Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ,**
**Вольга ІПАТАВА,**
**Міхаіл ПТАШУК,**
**Алесь РАЗАНАЎ,**
**Віктар СКОРАБАГАТАЎ,**
**Юрый ЦВЯТКОЎ,**
**Леанід ШЧАМЯЛЁЎ.**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Надзея БУНЦЭВІЧ, Жанна ВАСАНСКАЯ, Барыс КРЭПАК, Алесь ФІЛІПОВІЧ**
Спецкарэспандэнты: **Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ, Зміцер ВІШНЁЎ, Таццяна КОМАНАВА, Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі;**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3390.

Падпісана ў свет 10.09.97. у 16.30.

Замова 5416.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**